**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 8.12, 16.30, 8.18;
Віцебск — 8.08, 16.14, 8.06;
Магілёў — 8.01, 16.18, 8.18;
Гомель — 7.32, 16.23, 8.31;
Гродна — 8.26, 16.46, 8.20;
Брэст — 8.20, 16.53, 8.33.

**МЕСЯЦ:**

Поўня — 19 студзеня.

**ІМЯНІНЫ:**

Піліпа, Пятра;
Анастаза, Вінцэнта

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 60 кап.

22 СТУДЗЕНЯ 1992 г.
серада, № № 13—14
[21791—21792]


## РОЗГАЛАС

### «БІЗНЕС-КЛУБ»

Сёння мы з усіх трыбун заклікаем да стварэння альтэрнатыўнай эканомікі. У ёй многія бачаць той выратавальны круг, з дапамогай якога мы маглі б выкараскацца з эканамічнай багны, куды трапілі. Гэта эканоміка, якая ствараецца ў працэсе сённяшніх рыначных рэформ, эканоміка, што не прымае манапалізму і адміністрацыйнага дыктату, у якую прыходзяць новыя людзі.

Адкрываючы новую рубрыку, мы і хочам прысвяціць яе ў першую чаргу паказу новай эканомікі — альтэрнатыўных, недзяржаўных форм уласнасці (дарэчы, гэта не азначае супрацьпастаўлення адных форм другім), нават садзейнічаць іх станаўленню. Расказ пра гэтыя новыя формы і, вядома ж, пра дзелавых людзей, парады пра тое, як, дапусцім, стварыць малое прадпрыемства, агляды прадпрымальніцтва, кансультацыі і да т. п.— вось асноўны круг нашых тэм. Пры гэтым мы не супраць, калі чытачы яго расшыраць. Мы за тое, каб у кожным праснулася прадпрымальніцкая жылка, каб мы ўсе разам скінулі нарэшце з сябе скаваўшы нас дурман размеркавальніцтва, вызваліліся ад псіхалогіі ўраўняльнасці і ўтрыманства, напоўніліся энергіяй і дзелавітасцю — на сваю карысць, карысць сваіх блізкіх і грамадства...

*(Чытайце 2-ю стар.).*

### ДЗЕ НЕ ЛЮБЯЦЬ БЕЛАРУСАЎ?

Амерыканскі «Таймс мірор сентр» надрукаваў даныя апытання, праведзенага ў дванаццаці еўрапейскіх краінах, аб нянавісці на расавай і этнічнай глебе. Апытанне ахапіла 13 тысяч чалавек. Найбольш ненавідзімай этнічнай групай у Еўропе аказаліся цыгане: іх актыўна не любяць 91 працэнт чэхаў, 79 працэнтаў венграў, 59 — немцаў і 50 працэнтаў іспанцаў.

Цікавае становішча з беларусамі. І тут лідзіруе Польшча, дзе 19 працэнтаў апытаных недалюбліваюць беларусаў. На Украіне нядобрыя пачуцці да нас адчуваюць толькі 14 працэнтаў апытаных. У астатніх краінах Еўропы (у тым ліку і ў Расіі) адносіны да беларусаў больш-менш станоўчыя.

### ЧАРГОВЫ ЗАКЛІК ПРАФСАЮЗАЎ

Усе мы перажываем нялёгкі час. Так званая лібералізацыя цэн можа прывесці да галечы народа.

У гэтых умовах Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі лічыць неабходным прапанаваць ураду, мясцовым органам дзяржаўнай улады рэспублікі наступнае.

Прыняць дадатковыя меры па захаванню рабочых месц, забеспячэнню работ прадпрыемстваў. Сумесна з урадам дзяржаў, якія ўваходзяць у СНД, неадкладна разгледзець ход выканання пратакола ад 24.12.1991 года і забяспечыць выкананне ўзгодненых мер па захаванню гаспадарчых сувязей у першым квартале гэтага года, абмежаванню аптовых цэн і памераў падаткаабкладання.

Каб стабілізаваць эканоміку і вывесці яе з крызісу, неабходна ўключыць увесь комплекс рыначнага механізма. Перш за ўсё забяспечыць дэманапалізацыю, раздзяржаўленне і прыватызацыю ўласнасці ў інтарэсах працоўных калектываў.

Дабіцца прыняцця Закона аб прыватызацыі. У першым квартале гэтага года, зыходзячы з рэальна разлічанага мінімальнага спажывецкага бюджэта, забяспечыць павышэнне заработнай платы, стыпендый, пенсій, дапамог, іншых кампенсацыйных выплат прапарцыянальна яго росту.

Заклікаем усе грамадска-палітычныя партыі і рухі, стачачныя камітэты, новастораныя прафсаюзы ў гэты нялёгкі час аб'яднаць намаганні па змякчэнню негатыўных вынікаў пераходнага перыяду да рынку.

*Са Звароту прэзідыума савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.*

## «ПАМЯШКАННЕ ЗАХОПЛЕНА, У ПРАЦІЎНІКА ЁСЦЬ ПАЦЯРПЕЎШЫЯ»,

**— такі радок у справаздачу аб аперацыі па захопу магазіна № 22 «Саюздрук» у Мінску могуць запісаць супрацоўнікі літаратурна-выдавецкага агенцтва «Эрыдан». Калі аналагічны магазін № 14 быў заняты імі без страт для абодвух бакоў (пра што «Звязда» пісала 10 студзеня), то тут медыцынскія дакументы сведчаць: маладая сіла супраць 57-гадовай жанчыны і 46-гадовага мужчыны была прыменена не вельмі ўдала...**

«Звязда» лічыць неабходным вярнуцца да канфлікту паміж «Эрыданам» і «Саюздрукам» не толькі для таго, каб акцэнтаваць увагу на, мякка кажучы, арыгінальных метадах літаратурна - выдавецкага агенцтва здабываць сабе памяшканні, але і для таго, каб адзначыць, што гэтыя метады ў немалой ступені былі справакаваны дзеяннямі мясцовых улад, у якіх адна рука не ведае, што творыць другая.

Мяркуйце самі. У ліпені мінулага года Кастрычніцкі райвыканком Мінска ў асобе ЖРЭА заключыў з «Саюздрукам» дагавор на арэнду памяшкання для магазіна № 14 да 1996 года. 18 лістапада ён прапануе дакумент перарабіць у сувязі з павышэннем цэн на электраэнергію і камунальныя паслугі. 1 снежня «Саюздруку» высылаецца новы дагавор, а 19 снежня ён падпісваецца двума бакамі. І раптам праз пяць дзён на адрас таго ж «Саюздруку» накіроўваецца ліст, у якім — патрабаванне выселіцца з памяшкання, займаемага магазінам. Пошта перад Новым годам працуе не вельмі аператыўна, і ліст даходзіць да адрасата толькі 28-га. А днём раней Мінгарвыканком прымае рашэнне аб перадачы саюздрукаўскіх плошчаў, як вы ўжо здагадаліся, «Эрыдану».

З рашэннем гарвыканкома кіраўніцтву «Саюздруку» таксама не ўсё ясна. Паводле слоў начальніка рэспубліканскага аб'яднання «Саюздрук» Г. Панфіловіч, з ім ні яе, ні каго-небудзь іншага з распаўсюджвальнікаў друку не азнаёмілі. Ды і ў пратакольнай частцы гарвыканкома ён таксама не зарэгістраваны. Словам, і снежаньскія, і студзеньскія падзеі паказваюць: у Кастрычніцкім раёне ў штучна раздутай спрэчцы паміж «Эрыданам» і «Саюздрукам» перавага адназначна аддаецца першаму. І вось гэтая адназначнасць выклікае па меншай меры здзіўленне.

— Я прыходжу да высновы, што ў наш час дзейнічаць не толькі прававымі, але і звычайнымі інтэлігентнымі метадамі, як гэта робім мы, — значыць застацца ў пройгрышы, — так па просьбе карэспандэнта «Звязды» пракаменціравала сітуацыю Г. Панфіловіч. — Мы ўступілі просьбам «Эрыдана», здалі ім у субарэнду частку плошчаў, — і зараз ён за гэта нас абвінавачвае. Мы прапануем кампрамісныя варыянты выйсця са становішча — нас жа стараюцца бессаромна ашукаць. Мы, нягледзячы на ўсеагульнае павышэнне цэн, пакідаем ранейшым — усяго 22 працэнты гандлёвай скідкі за распаўсюджванне рэспубліканскіх і абласных газет, а нам прыпісваюць тарыфы Мінсувязі, якія намнога большыя.

**Кропка ў справе «Эрыдан» — «Саюздрук» пакуль не пастаўлена. А ў органы ўлады ўжо ідуць лісты грамадзян з просьбай аднавіць у закрытых магазінах продаж перыёдыкі. Грамадзяне вераць, што іх улада прыме адзіна правільнае рашэнне.**

## КАЛІНІНЦЫ БУДУЮЦЬ

**ГАНЦАВІЧЫ. (Ю. Фёдарава). Свой уласны льнозавод пачаў будаваць саўгас імя Калініна Ганцавіцкага раёна. Клопатаў з такой новабудоўляй шмат. Аднак і карысць будзе вялікая. У гаспадарцы разлічваюць удвая павялічыць прыбытак ад лёну дзякуючы паглыбленай перапрацоўцы саломкі і трасты.**

**Калгасны льнозавод, увесці ў строй які плануюць гэтай восенню, будзе прымаць у перапрацоўку сыравіну і ад суседзяў.**

## Я ТАК ДУМАЮ!

# ВОЛЬНАЯ КАЎБАСА ПА ВОЛЬНЫХ ЦЭНАХ. ДЛЯ ВОЛЬНЫХ ЛЮДЗЕЙ?

**Нам проста наканавана жыць заможна. Калі не ў Саюзе пры сацыялізме, то ў Садружнасці пры рынку. Хоць па Марксу глядзі, хоць па зорках. Калі ж ад зор вярнуцца на грэшную зямлю, то дакладных шляхоў да добрага жыцця ніхто не ведае, але ўсе рвуцца нас да яго весці. Куды-небудзь зноў завядуць, такое ўжо было. Тым больш, што правадыры, за рэдкім выключэннем, засталіся тыя ж. І будаўніцтва рыначных адносін вядзецца амаль тымі ж метадамі, што і камунізму. Не хапае хіба толькі суботнікаў ды звыклых лозунгаў пра датэрміновасць пабудовы капіталізму.**

Але калі ў 80-м годзе даўно абяцанага камунізму мы так і не дачакаліся (замянілі на Алімпійскія гульні), то ў 92-м рынак прыйдзе абавязкова, бо ліміт замен ужо даўно вычарпаны. Ну, можа, і не зусім такі, як мы бачылі па тэлевізары, а наш, уласны, на шмат горшы. Ды і адкуль яму, добраму, узяцца? Ён жа не ствараўся стагоддзямі, прыціраючыся да інтарэсаў вытворцы і спажыўца, шліфуючы ўсе законы і механізмы свайго жыцця і дзейнасці, знаходзячы і выкарыстоўваючы ўсе стымулы для як мага лепшай працы, а, значыць, і жыцця.

Нам хуценька дакляраваны і яшчэ хутчэй прыдуманы рынак — вельмі дзіўны, аднак, рынак. Спасцігнуць механізм яго дзейнасці цяжка. Што за рынак без тавараў, без рынку рабочай сілы, без рынку капіталу? Колькі каштуе тое, чаго няма ў продажы? А колькі яно будзе каштаваць па вольнай цане? І ці з'явіцца яно па такой цане на паліцах крам? Нас запэўніваюць, што з'явіцца. Не кажучы пры гэтым, адкуль напрыклад, тыя ж лекі). Мо Захад нам дапаможа? Бо на ўласных вытворцаў мы даўно не спадзяёмся. Каб апрануцца і купіць больш-менш прыстойны абутак, людзі вымушаны ехаць за мяжу. Аднаго жыцця мала, каб дачакацца мэблі. Маючы хоць нешта прыдатнае для абмену, можна мець усё, што пажадаеш. Грошы многіх не цікавяць. Які сэнс іх шмат зарабляць, калі на іх нічога нельга купіць? Не, купіць можна ўсё, што пажадаеш, але дзе і як зарабіць столькі грошай? Скажам, школьнаму настаўніку? Ды і шмат каму з нас.

Самы вялікі недахоп нашай эканомікі, паводле слоў нашых жа эканамістаў, — недахоп шмат якіх законаў для існавання паўнацэнных рыначных адносін. Праўда, і ўжо існуючыя не выконваюцца, не дзейнічаюць. І прымусіць іх выконваць улада не можа.

Што далей, пасля лібералізацыі цэн? Тавараў адразу больш вырабляць не станем, проста менш станем спажываць. Наколькі менш, пакуль што не зусім ясна. З голаду, вядома, не памром, разутымі і раздзетымі хадзіць не будзем. Гэта абнадзейвае. Пра адпачынак на Гаваях і ўласны «Мерседэс» не марылі і марыць не будзем. Барацьба будзе ісці за дасягненне і падтрыманне ўжо сфарміраванага на гэты час узроўню спажывання. Выгляд поўных паліц, якія прагінаюцца ад цяжару тавараў, вельмі цешыць вока, але наяўнасць тавару і магчымасць яго набыць — дзве вялікія розніцы.

Як вынік усяго гэтага мерапрыемства будзем чакаць павелічэння і выраўноўвання ўзроўню цэн і зарплаты. Бо людзі і іх непасрэдныя кіраўнікі знойдуць спосабы і магчымасці ўзняць зарплату. Што датычыць колькасці тавараў, тут больш складана. Страйкамі, ці іншымі шляхамі, але зарплата будзе прыведзена ў адпаведнасць з новымі цэнамі. Наколькі хутка гэта здолеюць зрабіць, не можа сказаць нават Глоба.

Як змяняюцца ў людзей погляды? Колькі аб'явілася праведнікаў і прарокаў! І дзе яны былі, такія разумныя, раней? На ідэалогію і назву адзінай раней існаваўшай партыі нашчадкаў не знайшлося. На маёмасць — хоць адбаўляй. Вярхоўны Савет забраў сабе будынак былога ЦК. І праўда — трэба неяк размежаваць заканадаўчую і выканаўчую ўладу ў прасторы. А універсітэт, бібліятэка — яны і пачакаць могуць. Не гэтулькі чакалі. Ды і хіба можна было ў старым будынку ВС скласці прыстойны закон? Вось цяпер пойдуць законы адзін лепшы за другі! Тады і зажывём. Ніхто зараз не можа растлумачыць і не хоча ўзяць на сябе адказнасць за развал эканомікі ў час перабудовы. Неяк дзіўна атрымліваецца — чым большыя поспехі дасягнуты ў галіне дэмакратыі, тым горшы стан эканомікі. А на Захадзе, з якога так ахвотна бяруць прыклад, ды і на Усходзе часцей здаралася наадварот. Наша мясцовая спецыфіка: чым больш гаворым, тым менш робім...

Сумненне ёсць і наконт таго, што кіраўнікі, якія ўсё жыццё працавалі ў каардынатах планавай эканомікі (і не без поспехаў), адразу спасцігнуць і выдатна авалодаюць новымі правіламі гульні. Гэтак не бывае, ці бывае вельмі рэдка. Прыйдзецца шмат вучыцца, перш за ўсё зразумець, што можна сваёй дзейнасцю зрабіць завод ці фабрыку банкрутам, чаго пры развітым сацыялізме і ўявіць сабе было немагчыма.

Можна перамясціць помнікі, змяніць назвы вуліц і гарадоў, але радзімыя плямы сацыялізму, стэрэатыпы паводзін адразу змяніць нельга. А без іх змены поспехаў ад нашага скачка ў рынак хутка чакаць не прыходзіцца.

Жартоўны лозунг перабудовы «Свабода ці каўбаса!» будзе нарэшце выкананы: будзе каўбаса па вольных цэнах, і будзе свабода для цэн.

А што для нас з вамі?

**Міхаіл ВАСІЛЬКОЎСКІ.**

## ЯНЫ ДОРАЦЬ ПРЫГАЖОСЦЬ

Гісторыя Мінскага фарфоравага завода налічвае больш за сотню гадоў. Заснаваны ў канцы мінулага стагоддзя як кафельны, ён ужо амаль паўстагоддзя забяспечвае рэспубліку фарфоравай пасудай. Сталовыя наборы, чайныя і кафейныя сервізы, мастацкія вырабы — усяго каля 170 назваў — такі сёння асноўны асартымент яго прадукцыі.

На заводзе склаўся калектыў кваліфікаваных кадраў— рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Створана эксперыментальна - мастацкая лабараторыя, механізаваны асноўныя тэхналагічныя працэсы. Прадукцыя стала больш сучаснай па форме і дэкору. На працягу апошніх дваццаці гадоў завод працуе ўстойліва. І нават у сённяшніх нестабільных эканамічных і палітычных умовах, працуючы літаральна на мяжы, тут не зменшылі, а нават крыху павялічылі выпуск прадукцыі. 104,2 працэнта (ды яшчэ ў штуках, а не ў рублях!) — з такімі вынікамі завяршылі завадчане мінулы цяжкі год.

**На здымках:** жывапісны цэх Мінскага фарфоравага завода; брыгадзір шліфоўшчыц-сартавальшчыц Тамара Мікалаеўна Гальцава.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**21 СТУДЗЕНЯ (у рублях)**

**Вільнюс.** Бульба (1 кг) — 4 — 5; капуста — 4 — 5, морква — 10, буракі — 4—5, смятана — 30—40, тварог — 40-50, малако — няма, ялавічына — 80, свініна — 70.

**Рыга.** Бульба — 6 — 8, капуста — 3 — 4, морква — 5 — 8, буракі 5 — 8, смятана — 60 — 80, тварог — 30-40, малако — 10 — 12, ялавічына — 40 — 100, свініна — 50 — 100.

**Талін** — бульба — 15, капуста — 5, морква — 6, буракі — 4 — 6, смятана — няма, тварог — няма, малако — няма, ялавічына — няма, свініна — 80 — 120.

**Санкт-Пецярбург** (Кавальскі рынак). Бульба — 10—25, капуста — 10 — 15, морква — 10 — 15, буракі — 10 — 20, смятана — 150, тварог — 40 — 50, малако — няма, ялавічына — 130 — 200, свініна — 150 — 300.

**Масква** (Рыжскі рынак). Бульба — 15, капуста — 10, морква — 20, буракі — 10, смятана — 60, тварог — 60, малако — 10, ялавічына — 150 — 200, свініна — 150 — 200.

**Мінск** (Камароўскі рынак). Бульба — 8, морква — 10, цыбуля — 10 — 15, капуста — 3 — 5, смятана — 80 — 100, тварог — 40 — 80, цялянiна — 80 —85, свініна — 80 — 100, трус — 50, гусь — 60, масла — 100, малако — 5, рыба (свежая) — 50, мёд — 200 ці 2 долары, бутэлька піва — 10, пачак цыгарэт «Космас» — 15.

Сямідзесяціпяцірублёв ы аркуш купонаў — 100 — 115 рублёў, двухсотрублёвы — 150 — 180.

## Гвінея-Бісау: няма кантакту

**У гэта пачынаеш з новымі сіламі верыць тады, калі даведваешся, што замежны студэнт Політэхнічнай акадэміі з Гвінеі-Бісау ўзяў ды пабіў выкладчыка ў яго на кватэры. Апошні ляжыць у бальніцы і, напэўна, думае аб студэнцкай псіхіцы і паводзінах, якія робяцца сапраўды непрадказальнымі.**

## УРАДАВАЯ ХРОНІКА

### ПАДПІСАНЫ ПАГАДНЕННІ

**Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанка і намеснік міністра замежных спраў КНР Цянь Цзэнпэй (міністр замежных спраў Цянь Цычэнь знаходзіцца цяпер у зарубежнай паездцы) ад імя сваіх урадаў падпісалі 20 студзеня вечарам пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма краінамі на ўзроўні паслоў. Яно ўступіла ў сілу з дня падпісання.**

У артыкуле 3-м гэтага дакумента гаворыцца, што ўрад КНР з'яўляецца адзіным законным урадам, які прадстаўляе ўвесь Кітай. Тайвань з'яўляецца неад'емнай часткай тэрыторыі КНР. Кітайскі бок рашуча выступае супраць любых спроб і дзеянняў, накіраваных на стварэнне «двух Кітаяў», «аднаго Кітая і аднаго Тайваня», «адной краіны з двума ўрадамі» або «незалежнага Тайваня». Рэспубліка Беларусь, падкрэсліваецца ў пагадненні, падтрымлівае гэту пазіцыю КНР.

Раней старшыня Камітэта па знешніх эканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь У. В. Радкевіч і міністр знешніх эканамічных сувязей і знешняга гандлю КНР Лі Ланьцын падпісалі ўрадавае пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве паміж дзвюма краінамі. На цырымоніі падпісання дакумента прысутнічалі Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. Кебіч і прэм'ер Дзяржсавета КНР Лі Пэн.

Пагадненнем прадугледжана, што абодва бакі будуць садзейнічаць працягламу і стабільнаму развіццю двухбаковых эканамічных і гандлёвых сувязей і ствараць для гэтага спрыяльныя ўмовы. Яны будуць таксама падтрымліваць эканамічныя кантакты, кіруючыся прынцыпамі роўнасці і ўзаемнай выгады.

Пасля падпісання пагаднення Лі Пэн наладзіў у Доме УСНП прыём у гонар В. Ф. Кебіча і членаў узначальваемай ім дэлегацыі. На прыём быў запрошаны таксама пасол Расійскай Федэрацыі ў КНР М. М. Салаўёў.

### ПАЕЗДКА ПА КІТАІ

**Завяршыўшы перагаворы ў кітайскай сталіцы і падпісаўшы сумесныя дакументы, урадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальвае Старшыня Савета Міністраў В. Ф. Кебіч, пачала трохдзённую паездку па Кітаі.**

Учора беларускі авіялайнер ТУ-154 даставіў дэлегацыю спецрэйсам ва Усі, буйны гандлёва-прамысловы і культурны цэнтр усходнекітайскай правінцыі Цзянсу. У гэтым горадзе высокія госці з Беларусі былі прыняты Генеральным сакратаром ЦК КПК Цзян Цзэмінем, які робіць цяпер інспекцыйную паездку па радзе раёнаў краіны.

Два дні, 22 і 23 студзеня, беларуская дэлегацыя правядзе ў паўднёвай правінцыі Гуандун, дзе наведае «вітрыну сучаснага Кітая»—першую ў КНР спецыяльную эканамічную зону Шэньчжэнь і адміністрацыйны цэнтр правінцыі Гуанчжоў, адзін з самых старажытных партовых гарадоў краіны.

З вялікай цеплынёй і гасціннасцю сустракаюць на кітайскай зямлі прадстаўнікоў незалежнай Беларусі. Кіраўнікі КНР выказваюць гатоўнасць развіваць з нашай рэспублікай сяброўскія адносіны і ўзаемакарыснае дзелавое супрацоўніцтва ў самых розных галінах.

### ЗАПРАШЭННЕ ЎРАДА МАНГОЛІІ

Урад Мангольскай Народнай Рэспублікі запрасіў Старшыню Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча наведаць з кароткатэрміновым візітам Манголію на зваротным шляху з Пекіна. Аб гэтым гаворыцца ў тэлеграме, якая паступіла ў Савет Міністраў рэспублікі з пасольства МНР у Расійскай Федэрацыі.

## Беларусь і Амерыка: масты наладжваюцца

У Мінск прыбыў афіцыйны прадстаўнік амерыканскай адміністрацыі — містэр Барталам'ю, які сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам. Размова датычылася ў асноўным выканання дагавора па СНУ — стратэгічным наступальным узбраенням, а таксама экспарту ў Беларусь навейшых тэхналогій і абсталявання.

Барталам'ю запэўніў, што Штаты не разглядаюць Беларусь у якасці нейкай другараднай дзяржавы, у тым ліку і ў плане раззбраення. Дыялогам засталіся задаволены абодва бакі.

Плануецца таксама ў бліжэйшым часе стварэнне больш цесных палітычных, эканамічных і іншых сувязей паміж ЗША і Беларуссю.

## МАЙСТЭРСТВА ПІЛОТАЎ

ГОМЕЛЬ **(У. Пернікаў).** З Сургуцкага аэрапорта ў Гомельскі прыйшла падзяка ў адрас экіпажа ТУ-154 (камандзір А. Пыркін). У пісьме гаворыцца аб тым, што пілоты праявілі высокае прафесіянальнае майстэрства, мужнасць і вытрымку.

А здарылася вось што. Самалёт з 135 пасажырамі на борце ўжо набраў неабходную вышыню, калі выявілася, што са строю выйшла пярэдняе шасі. Паветраны лайнер развярнуўся, і пасажыры захваляваліся. Ім паведамілі аб няспраўнасці і супакоілі: усё будзе ў парадку. Экіпаж ведаў, што трэба рабіць — знаходзіцца ў паветры да выпрацоўкі ўсяго паліва. Тады пры пасадцы можна пазбегнуць пажару. Але для гэтага неабходна дакладна разлічыць, на якой адлегласці ад аэрапорта павінна скончыцца гаручае, і прымусіць самалёт сплaніраваць на бетонную дарожку.

Пры ўзаемадзеянні са службамі Сургуцкага аэрапорта гомельскія лётчыкі справіліся з крытычнай сітуацыяй, самалёт зрабіў пасадку.

## РЭПЛІКА

# Зручнасць з «наварам»

### Чаму маршруты прыгарадных аўтобусаў стратныя, а некаторыя іх вадзіцелі халтураць сярод белага дня?

**— Во даюць! Яны што, з глузду з'ехалі?**

**Гэтыя здзіўленыя воклічы давялося пачуць трэцяга студзеня ў прыгарадных аўтобусах. Пасажыры не на жарт абураліся новымі і проста «дзікімі» цэнамі за праезд. Сапраўды, яшчэ зусім нядаўні, леташні кошт білетаў у 40—50 капеек раптам падскочыў да 3—4 рублёў. Чаму?**

Адказ тут самы банальны: вытворчае аб'яднанне «Мінскпасажыраўтатранс» ступіла ў рынак і таму рэзка павысіла тарыфы на праезд. Гэты непапулярны крок нібыта эканамічна абгрунтаваны: значна ўзраслі цэны на паліва, машыны, трэба ў два разы павысіць зарплату, а тут яшчэ розныя датацыі, кампенсацыі, іншыя выдаткі.

Так што, пасажыр, калі хочаш ехаць аўтобусам на «фазэнду», ці да цешчы на дранікі,— будзь ласкавы, раскашэльвайся і не тлумі нікому галавы. А, надта ж дарага? Што ж, тады сядзі дома ці дыбай пехам.

— А ці ведаеце вы, што 70 працэнтаў прыгарадных маршрутаў стратныя, — сказаў мне летась у час сустрэчы начальнік аддзела эксплуатацыі «Мінскпасажыраўтатранса» Ф. Марчук.

Прызнацца, я не паверыў сваім вушам. Як жа так? Аўтобусы ідуць туды і назад, асабліва ў выхадныя і святочныя дні, набітыя біткам, — і раптам стратныя?

Але мой апанент стаяў на сваім. Маўляў, адкуль ім быць рэнтабельнымі ці, тым больш, прыбытковымі, калі яны возяць пасажыраў амаль бясплатна: тарыф за праезд усяго 1,5 капейкі за кіламетр.

Летась з першага красавіка гэты самы тарыф павысілі ўдвая. Значыць, фінансавае становішча транспартнікаў адчувальна змянілася ў лепшы бок?

— Не, у мінулым годзе ўсе без выключэння прыгарадныя маршруты аказаліся стратнымі, — заявіў галоўны эканаміст аб'яднання Валерый Віктаравіч Новік. — Вось мы і ўстанавілі новую плату — 21 капейку за кіламетр.

На практыцы гэта азначала, што цэны за праезд павысіліў 7 разоў. Натуральна, пасажыры былі не толькі шакіраваны, але і моцна абураны такой бязлітаснай абдзіралаўкай, грабяжом сярод белага дня. Праўда, у справу ўмяшаўся аблвыканком, і тарыф знізілі да 15 капеек за кіламетр, што таксама нямала. Але транспартнікі незадаволена закруцілі носам: яны, бачыце, застануцца ў пройгрышы.

Вядома, застануцца, калі «Мінскпасажыраўтатранс» і Міністэрства транспарту рэспублікі не навучацца лічыць кожную капейку, а будуць раўнадушна глядзець на тое, як грошы плывуць «налева».

Яшчэ летась у артыкуле «Віражы» на прыгарадных маршрутах» («Звязда», № 97) востра ўзнімалася пытанне аб тым, што не ўся выручка за праезд трапляе ў касу аб'яднання. Думаеце, там зрабілі адпаведныя вывады, прынялі эфектыўныя меры, каб запаліць «чырвонае святло» на шляху заядлых аматараў «навару»? На жаль, усё засталося па-ранейшаму.

Асабліва выразна гэта ашуканства праявілася пасля рэзкага павышэння кошту білетаў. Карыстаючыся неінфармаванасцю пасажыраў, шафёры-прыгараднікі павялі сябе надзвычай нахабна, пачаўшы рабіць уласны «бізнес». Перадае чалавек, скажам, траяк ці пяцёрку, а ўзамен атрымлівае (дарэчы, далёка не заўсёды) сімвалічны цэтлік усяго толькі на 25 ці 40 капеек. Можна толькі ўявіць, колькі рублікаў збярэ ў перапоўненым салоне і пакладзе сабе ў кішэнь такі майстар лёгкай нажывы за адзін рэйс. А за дзень? За месяц?

Факты? Калі ласка. 6 студзеня менавіта так «абілечваў» вадзіцель аўтобуса (дзяржнумар 26—77 МИЩ), што ішоў у Мачаны. 11 студзеня гэтай жа бессаромнай маніпуляцыяй займаліся шафёры аўтобусаў 20—36 МИТ, 38—35 МИЛ, што курсіравалі ў М. Бесяды, тыя ж Мачаны, па іншых напрамках.

— Мы не паспелі пераацаніць усе білеты. Вось нядобрасумленныя вадзіцелі і карыстаюцца гэтым, — прызнаўся В. Новік і параіў: — А вы патрабуйце ў іх білеты на адпаведную суму.

На маю думку, патрабаваць са сваіх работнікаў, наладзіць за імі пастаянны і строгі кантроль перш-наперш павінна і абавязана кіраўніцтва «Мінскпасажыраўтатранса». Пакуль жа яно ўмее толькі павышаць кошт білетаў на прыгарадных маршрутах, ад чаго ў пройгрышы застаёмся мы, пасажыры.



**Іван БРАЛКА,**
**народны дэпутат Савецкага раённага Савета народных дэпутатаў г. Мінска, кар. «Звязды».**

АКТУАЛЬНА

**Адной з самых хвалюючых у апошні час для многіх з нас з'яўляецца праблема выжывання ва ўмовах рынachных адносін. Тут можа быць шмат рэцэптаў, але першая падмога для кожнага — добрая заработная плата. Ды не такая, якая трапляе ў дзяржаўныя статыстычныя даведнікі, а чысты прыбытак, без усялякіх вылічэнняў. Калі з гэтага пункту гледжання разглядаць нядаўна прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Закон «Аб падаходным падатку з грамадзян», то, здаецца, асаблівых прычын для хвалявання няма. У прыватнасці, з зарплаты 2.000 рублёў вылічваецца не так і шмат — 240 рублёў. Для параўнання: з такой жа сумы згодна з леташнім саюзным заканадаўствам адбіралася 434 рублі. Не надта высокімі будуць і падаткі з зарплаты ў 5—7 тысяч рублёў, ад прадпрымальніцкай дзейнасці, сум аўтарскіх ганарараў і інш.**

**Аднак тым, хто, прачытаўшы гэты закон, збіраецца пляскаць у ладкі, не раім з гэтым спяшацца. Не ўсё тут так гладка, як уяўляецца на першы погляд. Так, дзяржава быццам бы адкрыла шырокія магчымасці для таго, каб людзі падрыхтаванымі ўступілі ў рынак. Але гэта толькі здаецца. У сапраўднасці вельмі нямногія спецыялісты змогуць зарабіць больш-менш добрую капейку.**

# ПАДАТКОВЫ ПРЭСІНГ

Справа ў даным выпадку не ў прадпрымальніцкіх здольнасцях таго ці іншага чалавека, а ў іншым. Прадэкларaваўшы Законам «Аб падаходным падатку з грамадзян» магчымасць зарабляць пэўныя грошы, заканадаўцы тут жа надзелі цяжкі хамут на заводы, фабрыкі, малыя прадпрыемствы, іншых вытворцаў.

Мяркуйце самі: у снежні і студзені рэспублікай прынята 12 законаў аб падатках, якімі абкладаецца абсалютная большасць прадпрыемстваў. Прычым не адзін раз. Дзе ўжо тут спадзявацца на тое, што кіраўнікі заводаў змогуць плаціць сваім работнікам добрую зарплату?! Ім хоць бы канцы з канцамі звесці. А калі ўлічыць, што не толькі бухгалтары, эканамісты, дырэктары прадпрыемстваў, але і многія парламентарыі ўпершыню пачулі, напрыклад, аб падатку на дабаўлены кошт, то няцяжка ўявіць, якая блытаніна пачнецца ў арганізацыях. Адны разлікі зоймуць процьму часу, ды і зрабіць іх будзе не так проста. Напрыклад, пералічэнне падатку на дабаўлены кошт на буйных заводах плануецца рабіць адразу пасля продажу вялікай партыі прадукцыі. Кіраўніку давядзецца выбіраць: рэалізоўваць яе па меры выпуску і праз дзень адпраўляць бухгалтара ў банк, ці, паспачуваўшы падначаленаму, назапашваць вырабы на складзе. А спажыўцы тым часам зноў будуць біць у званы — дзе тавар?

Вядома, гэта толькі асобныя няэручнасці, якія відаць няўзброеным вокам. Самае сумнае, што вышэйпамянёны падатак на дабаўлены кошт ляжа ў першую чаргу на плечы пакупніка, бо яго плануецца механічна дабаўляць да адпускной цаны.

Вось толькі адна з тыповых сітуацый. Напрыклад, сабекошт прадукцыі склаў 300 рублёў. Падатак на дабаўлены кошт акажацца каля 60 рублёў. Само ж прадпрыемства вымушана адпускаць тавар па цане 450 рублёў. Але і гэта не ўся накрутка. Спажыўцу давядзецца выкласці ў рэшце рэшт за гэты выраб з уласнай кішэні ўжо каля 600 рублёў. Чаму? Свае нацэнкі на шляху да прылаўка зробяць пасрэднікі і гандаль — яны атрымалі права дабаўляць да свабоднай адпускной цаны (у нашым выпадку 450 рублёў) адпаведна да 8 і 25 працэнтаў. Не сакрэт, што кожны з іх спыніцца на максімальнай надбаўцы — каб выплаціць падатак і вышэй падняць уласную зарплату.

На жаль, гэтым падатковы прэсінг на прадпрыемства, а разам з тым і на спажыўца, не абмяжоўваецца. Пасля пералічэння 28 працэнтаў дабаўленага кошту з большасці вытворцаў спаганяецца яшчэ 30 працэнтаў падатку на прыбытак. Потым — 18 працэнтаў «чарнобыльскіх» (пра што заканадаўцы ўспомнілі літаральна ў апошнюю хвіліну), адлічэнні за нерухомасць, экалогію, у дарожны фонд, на экспартімпарт і інш.

Дзе ж прадпрыемству ўзяць для ўсіх гэтых выплат грошы? Адказ адзін — у спажыўца. Вось і робіцца зразумелым, чаму з дня ў дзень даражаюць тавары, усё цяжэй звесці канцы з канцамі нават сярэднезабяспечанаму работніку.

Адначасова расце трывога, як вытрымаюць такі падатковы рэкет кіраўнікі прадпрыемстваў. Да іх надзённых клопатаў па наладжванню гарызантальных сувязей, пошуку надзейных сумежнікаў прыбавіўся не менш сур'ёзны — як не пакінуць без зарплаты падначаленых. Бо адна справа, калі ўрад заяўляе аб неабходнасці павысіць зарплату як мінімум удвая, і зусім іншая — знайсці для гэтага сродкі непасрэдна на вытворчасці. Тым больш, што істотна павялічыўся і ўзнос у страхавы фонд — да 40,8 працэнта. Іншымі словамі, дырэктар прадпрыемства, выплачваючы рабочаму тысячу рублёў, павінен зняць з рахунку яшчэ 408. А яму ж яшчэ трэба клапаціцца аб далейшым развіцці вытворчасці, нарошчванні магутнасцей. На думку эканамістаў, калі будзе заплачаны падатак на дабаўлены кошт, сацстрахаванне, выдадзена зарплата прыбытку не акажацца. У лепшым выпадку вытворцы змогуць наскрэбці 24 капейкі з укладзенага рубля, у будаўніцтве — 17. Такі расклад наўрад ці дабаўляе аптымізму.

Невыпадкова дырэктар Мінскага мотавелазавода нядаўна ў роспачы заявіў з тэлеэкрана: няхай нам не дапамагаюць, але і не перашкаджаюць працаваць. І прывёў такія лічбы: ў 1992 годзе пры стабільнай рабоце прадпрыемства заплаціць у бюджэт 338 мільёнаў рублёў, 382 — аддасць гандлю і толькі 136 мільёнаў здолее пакінуць на ўласнае развіццё. Хіба ж можна пры такім падыходзе спадзявацца на паляпшэнне дабрабыту працоўных?

Як ні дзіўна, амаль такая ж бязвыхадная сітуацыя складваецца не толькі ў дзяржаўным сектары, але і ў малым бізнесе.

— Многія кааператывы, малыя прадпрыемствы вымушаны будуць спыніць сваю дзейнасць,— лічаць спецыялісты Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь.— Пачынаць новую справу з нуля практычна няма сэнсу.

Наш змучаны паўсядзённым побытам мешчанін, магчыма, ускліkне: «Так ім і трэба!» Ды зноў паспяшаецца. Хоць бы па той прычыне, што малы бізнес — гэта не толькі тавары на прылаўках камерцыйных крам, але і новыя рабочыя месцы. На многіх прадпрыемствах ідзе скарачэнне. І тыя, хто звольніцца з завода ці фабрыкі, пайшлі б у камерцыйную фірму або арганізавалі сваю. На жаль, там іх ужо не чакаюць.

Не выказваюць асаблівага энтузіязму з нагоды дзяржаўнай падатковай палітыкі і вучоныя. Вось думка кандыдата навук М. Бабрыцкага:

— Мэта фінансавых органаў, дзяржавы — забраць як мага больш грошай у прадпрыемства, чалавека, умацаваць бюджэт. А потым адтуль ужо дзяліць. Разлікі паказваюць: калі раней забіралі праз бюджэт і дзялілі 40 працэнтаў чыстага прадукту, то зараз імкнуцца забраць да 70.

— Новыя падатковыя законы — антырынaчныя, яны не будуць садзейнічаць росту вытворчасці, стымуляваць вытворчыя калектывы на добрасумленную працу,— адзначыў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў РБ У. Карагін у мінулы чацвер на семінары па падаткаабкладанню ў г. Мінску. І з ім нельга не пагадзіцца.

Дарэчы, гэтая арганізацыя ў чарговы раз паказала прыклад сапраўднай аператыўнасці. Як толькі з'явілася першая магчымасць атрымаць неабходныя дакументы па падаткаабкладанню, прадпрымальнікі не толькі выкарысталі яе, але і арганізавалі вучобу іншых спецыялістаў, размножылі пакеты патрэбных заканадаўчых актаў, многія з якіх трапілі да прадпрымальнікаў значна раней, чым у рэспубліканскі друк. Што, між іншым, не робіць гонару ўрадавым службам.

**Як відаць, падатковае заканадаўства істотна паўплывае на дабрабыт кожнага прадпрыемства, кожнага чалавека. Многія эксперты прадказваюць, што заканадаўцы павінны будуць пайсці на ўступкі. На гэта спадзяюцца і ў Саюзе прадпрымальнікаў. А пакуль, адклаўшы ў бок іншыя справы, рыхтуюць агульнарэспубліканскі семінар па падатковаму заканадаўству. Для тых, каго цікавяць тэрміны яго правядзення, паведамляем КАНТАКТНЫ ТЭЛЕФОН: 23-13-65.**

**Рэдакцыя газеты «Звязда», у сваю чаргу, улічваючы вялікую цікавасць чытачоў да гэтай тэмы, плануе ў бліжэйшы час змясціць адказы на найбольш актуальныя пытанні па падаткаабкладанню.**

**Мікалай БАЖКО.**
**т. 32-43-03.**

# БІЗНЕС КЛУБ

## «А» і «Б» не гаварыць!

**Простаму чалавеку, якому даводзілася бачыць па тэлевізары мурашнік заходняй біржы, наўрад ці цікава, што за жэсты паказваюць тамашнія маклеры. Людзям жа, якія зараз пачынаюць свой бізнес у нас, ведаць мову біржы проста неабходна.**

Сярод інструментаў маклераў — сігналы, якія яны падаюць рукой пры заключэнні здзелак. Вось як гэта робіцца на адной з лонданскіх біржаў:

**Мал. 1. Купляю.** Маклер-пакупнік паварочвае далонь ад патэнцыяльнага маклера-прадаўца да сябе.

**Мал. 2. Прадаю.** Рух далонню робіцца ў адваротным парадку. Наступны этап — дагавор аб цане. Рукой маклер паказвае адну ці дзве апошнія лічбы цаны на тавар. (Поўны кошт тавара высвечваецца на электронным табло ў біржавой зале).

**Мал. 3, 4.** Так паказваюць лічбы ад 1 да 5.

**Мал. 5, 6.** Ад 6 да 9.

**Мал. 7.** Сціснуты кулак азначае 10 ці 0.

**Мал. 8.** Каб паказаць «00», маклер робіць рух сціснутым кулаком справа налева.

Дамовіліся аб цане, цяпер — аб колькасці тавару.

Лічбы ад аднаго да дзевяці маклеры паказваюць правай рукой на падбародку.

**Мал. 9.** Так паказваюць лічбу 2.

**Мал. 10.** Гэта лічба 3. Дзесяткі паказваюць на ілбе.

**Мал. 11.** Гэта 30.

**Мал. 12.** Лічба 90.

САКРЭТ ФІРМЫ

## СЛОВА НЕ ВЕРАБЕЙ...

### Некалькі парад перад дзелавой сустрэчай

**Праз тыдзень у вас дзелавая сустрэча. Толькі не трэба думаць, што гэта лёгкае мерапрыемства, асабліва для тых, хто ў бізнесе робіць першыя крокі. Як сцвярджаюць знаўцы, самая спакойная і добразычлівая дзелавая гутарка — маленькая бітва. А да любой бітвы трэба рыхтавацца. Так, напрыклад, лічыць і кансультант Савецкай асацыяцыі эканамічнай псіхалогіі Мікалай РАКІЦЯНСКІ.**

**Вось што ён раіць дзелавым людзям.**

Хутчэй за ўсё прыйдзецца пагадзіцца: вы — не Дэмасфен. Увесь свой талент рытара вы вычарпалі яшчэ ў ВНУ, адказваючы марксісцка-ленінскую філасофію. Сканцэнтруйцеся. Дакладна сфармулюйце асноўныя пытанні, якія вам трэба абмеркаваць (лепш, калі вы запішаце іх). Гэта пазбавіць вас ад няёмкага маўчання або, горш таго, ад няўпэўненасці ў дакладнасці фармулёўкі пытанняў. Калі вы мяркуеце, што ваш субяседнік неабавязкова будзе сардэчным і адкрытым, падрыхтуйце некалькі варыянтаў аднаго і таго ж пытання. Можа, хоць бы за трэцім разам вам удасца злавіць больш або менш аб'ектыўную інфармацыю.

Не сустракайце свайго субяседніка цяжкім уздыхам і ледзь бачным кіўком. Устаньце, зрабіце некалькі крокаў насустрач, абмяняйцеся рукапацісканнямі і прапануйце сесці. Аб тым, дзе сесці, вы таксама павінны падумаць раней. Напрыклад, пісьмовы стол, які раздзяляе вас, — сімвал афіцыйнай дыстанцыі.

У час дзелавой гутаркі не курыць, не круцяць у руках якую-небудзь цацку і не малююць чорцікаў.

Старайцеся быць прыемным, калі хочаце дасягнуць поспеху. Сачыце за сваім знешнім выглядам (сустракаюць жа па апратцы!) Але ніколі не стаўце ў аснову ваша першае ўражанне аб субяседніку! Упершыню ўбачанага чалавека мы спрабуем аднесці да якога-небудзь тыпа асобы. Адвольна прыпісваем яму нейкія рысы, спрабуем звесці невядомае да вядомага. А першае ўражанне, як магніт, які прыцягвае да сябе інфармацыю, што пацвярджае і адштурхоўвае іншую, тую, што абвяргае. Не ідзіце на повадзе ў першага ўражання, яно залежыць не толькі ад вашага жыццёвага вопыту, але нават ад настрою, у якім вы знаходзіцеся.

У час гутаркі не выказвайцеся напышліва, ваша гаворка павінна быць гранічна яснай для субяседніка. Пазбягайце выказванняў, якія дапускаюць неадназначнае тлумачэнне. Памятайце, што нават калі вы выключылі ўсякае хлуслівае тлумачэнне, усё роўна знойдзецца чалавек, які зразумее вас няправільна.

Не спрабуйце выкарыстоўваць словы, узятыя ўпора са слоўніка запазычаных тэрмінаў. Не паўтарайце за субяседнікам не зусім зразумелыя вам тэрміны. Можа адбыцца канфуз. Але таксама не будзьце і вельмі прастадушнымі, не перапытвайце здзіўлена: «А што гэта такое?» Гэтым вы не падкупіце субяседніка.

У рашаючай фазе вашай гутаркі трэба высветліць факты, паказаць, што і вы добра валодаеце пытаннем і сёе-тое разумееце ў справах. Слухайце свайго субяседніка, дайце выкласці яму сваю пазіцыю. Ні ў якім разе не перабівайце, спрабуючы прадоўжыць ідэю або абвергнуць сказанае. Паспееце.

**КАЛІ ВЫ СЛУХАЕЦЕ, ТО ВЫ:**

**— забываеце аб сваёй прадузятасці ў адносінах да субяседніка;**

**— ніколі не спяшаецеся з вывадамі, сваё заключэнне важка аргументуеце;**

**— аддзяляеце факт ад думкі аб ім;**

**— вы ўважлівыя і сканцэнтраваныя;**

**— вы ведаеце не толькі тое, што ваш субяседнік хоча сказаць, але і тое, чаго ён сказаць не можа або не хоча;**

**— вы гераічна пераадольваеце жаданне спыніць вялікі паток слоў фразай: «Хопіць, я ўсё зразумеў!»**

Калі вы не згодныя, заяўляйце аб гэтым без пафасу. Мякка заўважце: «Не магу сказаць, што вы не маеце рацыі, але я думаю інакш», «цяжка сказаць, я аб гэтым не думаў». Калі ж тое, што паведаміў ваш субяседнік, вельмі вас задавальняе, бурна выказваць сваё захапленне не трэба. Калі гутарка ідзе не так, як вам хацелася б, субяседнік стаіць на сваім, вам складана дамовіцца, старайцеся стрымліваць свае эмоцыі. Не забівайце субяседніка іроніяй і сарказмам. Справе гэта не дапаможа, але другі раз з вамі наўрад ці захочуць сустрэцца за сталом перагавораў.

Дрэнна сфармуляваныя пытанні могуць насцярожыць субяседніка. Ён вырашыць, што ваша пытанне мае які-небудзь падтэкст. Жаданне адкрыта адказаць на яго раптам знікне. Нельга ставіць навадныя пытанні, у якіх ужо сфармуляваны патрэбны вам адказ. Не прапануйце на выбар двух варыянтаў адказу — гэта звузіць яго рамкі. Старайцеся пазбягаць пытанняў, на якія можна адказаць коратка: «так» — «не». Да любога пытання дабаўце «...як вы думаеце?», і вы прымусіце субяседніка выказаць сваю думку. Вам гэта патрэбна для таго, каб пераканацца ў кампетэнтнасці, знаходлівасці, кемлівасці вашага субяседніка.

Уважліва слухайце і фіксуйце ў памяці ўсе незвычайныя павароты размовы. Вы можаце атрымаць прынцыпова важную новую інфармацыю. Выпадкова заўважыўшы «зачэпку», не пераключайцеся на яе адразу. Запомніце, і пасля таго, як субяседнік змоўкне, удакладніце, перапытайце.

У час гутаркі спрабуйце «падумаць за другога», пастаўце сябе на месца вашага субяседніка, паглядзіце на сітуацыю яго вачамі. Але не забывайце, што вы ведаеце аб ім не так ужо і шмат.

У час гутаркі не трэба весці запісаў, але пасля таго, як наведвальнік пакіне вас, цікавую інфармацыю трэба запісаць. Не спадзявайцеся на сваю памяць. А спаліць гэтыя запісы заўсёды паспееце.

Калі за акном ужо сцямнела, а гутарыце вы з паўдня, то вас міжволі наведае думка: «Час бы закругляцца». Бывае, што людзі, пераадолеўшы стрыманасць і ўбачыўшы ў вас зацікаўленага субяседніка (чаго вы, зрэшты, і дабіваецеся), літаральна не могуць спыніцца. Тут не абыдзешся словамі ўдзячнасці за праяўленую цікавасць і намёкамі на развітанне. Паспрабуйце дадаць, што вы хочаце неадкладна праінфармаваць свайго кіраўніка аб сустрэчы, якая адбылася. А калі пры гэтых словах яшчэ і ўстаць з-за стала, нармальны чалавек вымушаны будзе пакінуць ваш офіс, як бы яму ні хацелася прадоўжыць гутарку.

Вось і ўсё. Не так ужо і складана. Затое поспех гарантаваны.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

## Слоўнік бізнесмена

**БІРЖАВАЯ СЕСІЯ.** Час, на працягу якога заключаюцца здзелкі на біржы. Распарадак яе працы.

**БІРЖАВАЯ ЯМА.** Частка памяшкання біржы, падлога якой знаходзіцца на больш нізкім узроўні, чым усёй залы. У гэтым месцы членам біржы дазваляецца заключаць здзелкі.

**БРОКЕР У «ЯМЕ».** Член біржы, які заключае здзелкі ў «яме». Як для сябе, так і па даручэнню іншых асоб ці фірм — за камісійную плату. Рэгіструецца саветам дырэктараў біржы, атрымлівае значок, які дае права працаваць у «яме».

**БЫК.** Спекулянт, які скуплівае раней купленыя кантракты, мяркуючы, што цэны падымуцца. Антонім — Мядзведзь.

**ДЭПАЗІТ** (гарантыйны, першапачатковы задатак). Сума грошай, якая ўяўляе сабой частку агульнага кошту кантракта (ад 2 да 10 працэнтаў) і павінна быць выплачана членам біржы разліковай палаце, а кліентамі — брокеру, калі кантракт рэгіструецца.

**ДОЎГАТЭРМІНОВЫ КАНТРАКТ.** Кантракт паміж незалежнымі пакупніком і прадаўцом, які прадугледжвае пастаўку тавару партыямі на працягу не менш чым 2-х гадоў.

**КАНТРАКТ Ф'ЮЧАРСНЫ (біржавы).** Дагавор аб пастаўцы тавару ў будучым, дзе уніфіцыраваны практычна ўсе ўмовы — якасць, колькасць, умовы пастаўкі, плацяжы, упакоўка, парадак разгляду спрэчак і г. д. Бакі па здзелцы толькі дамаўляюцца аб цане і тэрміне пастаўкі з ліку тэрмінаў, якія зацверджаны біржай.

**ЛІКВІДАЦЫЯ.** Продаж раней купленага біржавога кантракта.

**ЛІМІТ КАНТРАКТАЎ.** Максімальна дапушчальная колькасць ф'ючарсных кантрактаў, якой можа валодаць адна асоба. Устанаўліваецца біржай ці органамі, якія рэгулююць біржавы гандаль, каб не дапусціць маніпуляцый цэнамі.

**МАКЛЕР (дзілер, джобер).** Біржавы пасрэднік, які купляе і прадае толькі за свой кошт (у адрозненне ад брокера, які заключае здзелкі і для кліентаў).

**МЯДЗВЕДЗЬ.** Спекулянт, які прадае кантракты, мяркуючы, што цэны хутка знізяцца.

**ВОДКУП, АДКУПЛЯЦЬ.** Спыненне абавязкаў па раней прададзеным ф'ючарсным кантракце шляхам зваротнай куплі, водкупу.

**ПЕРАНОС (свіг).** Перанос тэрміну пастаўкі з аднаго месяца на другі. Існуючы кантракт ліквідуецца і заключаецца новы з больш далёкім тэрмінам пастаўкі.

## Выйшлі на прастору прадпрымальнасці

**Больш за 4 тысячы кліентаў у Мінскага камерцыйнага банка рэканструкцыі і развіцця «Мінскбізнесбанк». Сярод іх прыватныя, сумесныя, камерцыйныя фірмы, прадпрыемствы, асацыяцыі.**

**Гэта ўстанова «падтрымлівае» ўсю гарадскую гаспадарку, транспарт, шматлікія будаўнічыя арганізацыі, бальніцы, дзіцячыя сады, аб'екты культуры.**

**Гэтымі днямі «Мінскбізнесбанк» атрымаў генеральную ліцэнзію на знешнеэканамічную дзейнасць, што дасць магчымасць прапанаваць кліентам усе віды валютнага абслугоўвання.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўны эканаміст Г. ШПІЛЕЎСКАЯ і намеснік галоўнага бухгалтара А. СЫРАКВАШ у зале камп'ютэрнай апрацоўкі штодзённай інфармацыі.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

IDEA

АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «ІДЭЯ» (г. Мінск)

УВАЗЕ
вядучых спецыялістаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў, бірж, фірм і кампаній!

ПРАПАНУЮЦЬ

Language Centre of Guildford
ГІЛДФАРДСКІ ЛІНГВІСТЫЧНЫ ЦЭНТР (Вялікабрытанія)

МЕСЯЧНЫ КУРС НАВУЧАННЯ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ
распрацаваны англійскімі спецыялістамі з улікам спецыфікі савецкага рынку
«КІРАВАННЕ Ў РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІЦЫ»
(тэорыя і практыка).

ЗАЯЎКІ ПРЫМАЮЦЦА
з 10.00 да 12.00 і з 17.00 да 19.00
ПА АДРАСУ:
г. Мінск, вул. Варвашэні, 17, пакой 610.

Аплата за навучанне — у СКВ

ДАВЕДКІ ПА ТЭЛЕФОНЕ 33-77-75.

СВАЯ СПРАВА

## ЯНЫ ВЫРАШЫЛІ НАКАРМІЦЬ СЯБЕ САМІ. І НАС ТАКСАМА

**У Аршанскім раёне разам з 32 калгасамі і саўгасамі працуюць 7 сельскіх (фермерскіх) гаспадарак. Большасць з іх створаны нядаўна. У мінулым годзе сямёра фермераў атрымалі ў карыстанне 220 гектараў зямлі. Самы «зямельны» з семярых — энергічны, прадпрымальны Уладзімір Іванавіч Юрчанка.**

Лічу, што ў недалёкім будучым выхадцы з інтэлігенцкага асяроддзя зоймуць дастойнае месца ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Уладзімір Іванавіч падае таму добры прыклад. Жыхар г. Барані нават і не думаў станавіцца фермерам, жыў як быццам без турбот, але жыццё прымусіла задумацца. А штуршком да гэтага стаў Закон аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы, які быў прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі. Уладзімір Іванавіч падзяліўся сваімі планамі са старшынёй калгаса «1 Мая» Сяргеем Аркадзьевічам Раманенкам. Ён уважліва выслухаў яго і паабяцаў падтрымаць.

Праўленне калгаса і Першамайскі сельскі Савет народных дэпутатаў хутка афармілі адпаведныя паперы. А потым прыняў рашэнне Аршанскі райвыканком. І Уладзімір Іванавіч атрымаў на рукі неабходныя па закону дакументы, у якіх сказана: «Выключыць з зямель калгаса «1 Мая» зямельны ўчастак плошчай 92,3 гектара, у тым ліку ворнай зямлі 10 гектараў. Перадаць зямельны ўчастак 92,3 гектара ў пастаяннае карыстанне тав. Юрчанку У. І. для вядзення сялянскай гаспадаркі». Гэта вялікі надзел, бо закон прапануе толькі 50 гектараў, а звыш — нельга.

У мінулым годзе ўжо добра апрацаваў 30 гектараў зямлі і пасеяў шматгадовыя травы. А на астатняй зямлі гаспадар мяркуе пасеяць збажыну, буракі, бульбу.

Каб набыць трактары, прыйшлося доўга абіваць парогі розных раённых і абласных устаноў. Свет не без добрых людзей, і на дапамогу прыйшоў Сялянскі саюз рэспублікі.

Спачатку Юрчанка пусціў у абарот усе асабістыя, наяўныя грошы, але мала было, бо тэхніка вельмі дарагая. Звярнуўся ў Аршанскі аграпрамбанк і ўзяў крэдыт.

Праўда, на першым часе калгас не застаўся ўбаку і дапамог фермеру Юрчанку набыць насенне каласавых, шматгадовых траў, прычапны сельгасінвентар, мінеральныя ўгнаенні ў крэдыт.

Зараз Уладзімір Іванавіч паставіў перад сабой задачу развесці авечак «раманаўскай» пароды, якія добра прыжыліся ў рэспубліцы. Авечкагадоўля дае добры прыбытак. Для гэтых мэт ён, хоць і з цяжкасцямі, набывае авечак праз абласное племжыўаб'яднанне.

Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Іванавіча працуюць трое наёмных спецыялістаў: будаўнік, механізатар і вадзіцель. Штомесяц яны атрымліваюць гарантаваны заробак, а калі будзе прыбытак, то будзе і дадатковая аплата.

Уладзімір Іванавіч Юрчанка лічыць, што цяжка ідзе станаўленне фермерскага руху. Таму прыйшоў да высновы, што фермерскія гаспадаркі павінны аб'яднацца. Калі ад дзяржавы няма пакуль што адчувальнай дапамогі, дык фермеры павінны дапамагаць адзін аднаму, каб як мага больш разумна і эфектыўна выкарыстаць той жа магутны трактар, стварыць калектыўнае перапрацоўчае прадпрыемства, адкрыць, скажам, аб'яднаны магазін па продажу сельскагаспадарчых і жывёлагадоўчых прадуктаў, набыць перасоўны мясакамбінат і інш. Усе мясцовыя гаспадары сабраліся і вырашылі стварыць на Аршаншчыне асацыяцыю фермераў. У яе ўваходзяць фермер Шалатонін з вёскі Паддубцы, Каджэбаш з вёскі Шатравіна, далучаецца да іх і прадпрымальнік Шумілінскага раёна на Віцебшчыне. Абгаварылі ўмовы стварэння асацыяцыі і даручылі У. І. Юрчанку распрацаваць неабходную дакументацыю і статут, зарэгістраваць асацыяцыю ў Аршанскім раённым Савеце дэпутатаў працоўных. Перапрацоўчае прадпрыемства вырашылі размясціць на землях у А. Г. Шалатоніна, які атрымаў у бестэрміновае карыстанне для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі 28,8 гектара зямлі ў калгасе «Ленінская Іскра». Дамовіліся, што ў гэтым годзе будуць вырошчваць бульбу. Кожны гаспадар павінен пасеяць не менш як 10 гектараў. Іх пяць гаспадароў, усяго будзе пасеяна 50 гектараў бульбы.

Галоўнае, лічаць фермеры, павялічыць вытворчасць мяса. Будзе ялавічына, свініна, бараніна — усё гэта мяркуецца пусціць у продаж для насельніцтва праз магазін, які купяць альбо будуць арандаваць у Оршы.

**Георгій МАРОЗ,**
**няштатны карэспандэнт «Звязды».**

**АД РЭДАКЦЫІ: Сёння мы адкрываем рубрыку, якую трэба было адкрыць даўно. «СВАЯ СПРАВА» — проста і зразумела кожнаму. Ведаеце, надакучыла пісаць аб тым, што жыць дрэнна, яшчэ горш, зусім дрэнна. Надакучыла разважаць аб тым, як жыць, — бо нам трэба, каб усе былі задаволены. Усе наогул ніколі не будуць задаволены. Гэта толькі ў Бібліі адным боханам можна было накарміць 5 тысяч. У жыцці кожны сам павінен зарабіць свой хлеб. Далібог, зараз гэта не забаронена. І трэба толькі рашыцца. Такіх людзей пакуль мала, можна сказаць, адзін на тысячу. Тым не менш яны ёсць. І мы будзем аб іх пісаць. І не столькі, дзеля таго, каб такіх людзей падтрымаць, колькі пацвердзіць — яны такі ёсць. А ўжо ваша справа — браць прыклад з іх, ці не.**

*ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# АБ ПАДАТКАХ І ЗБОРАХ, ЯКІЯ БЯРУЦЦА Ў БЮДЖЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пад падаткамі і зборамі, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь, разумеюцца абавязковыя адлічэнні грашовых сродкаў ад плацельшчыкаў у вызначаных законамі размерах.

Акрамя падаткаў і збораў, прадугледжаных гэтым Законам, у бюджэт Рэспублікі Беларусь паступаюць устаноўленыя заканадаўствам непадатковыя плацяжы.

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў у межах правоў, што прадастаўляецца ім заканадаўствам, могуць устанаўліваць мясцовыя падаткі, зборы, пошліны, якія бяруцца на іх тэрыторыі.

**Артыкул 1. Плацельшчыкі падаткаў і збораў**

Аб'яднанні, прадпрыемствы, арганізацыі, іх філіялы, прадстаўніцтвы, аддзяленні і іншыя адасобленыя падраздзяленні, што ажыццяўляюць гаспадарчую або іншую камерцыйную дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, незалежна ад падпарадкаванасці і форм уласнасці, а таксама фізічныя асобы, якія атрымліваюць даходы ад прадпрымальніцкай дзейнасці, работы па найму і з іншых крыніц, абавязаны ўносіць у бюджэт плацяжы, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Залічэнне падаткаў і збораў у бюджэт**

Усе сумы падаткаў і збораў залічваюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь.

Залічэнне падаткаў і збораў у мясцовыя бюджэты рэгулюецца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь». Размеры адлічэнняў у мясцовыя бюджэты ад агульнадзяржаўных падаткаў устанаўліваюцца штогод Законам Рэспублікі Беларусь пры зацвярджэнні бюджэту.

Падаткі і зборы выплачваюцца ў грашовых адзінках, якія знаходзяцца ў абароце на тэрыторыі рэспублікі, або ў замежнай валюце, што купляецца банкамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3. Віды агульнадзяржаўных падаткаў і збораў**

У Рэспубліцы Беларусь устанаўліваюцца наступныя віды агульнадзяржаўных падаткаў і збораў:

а) падатак на дабаўленую вартасць;

б) акцызы;

в) падатак на прыбытак і даходы;

г) падатак за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак);

д) падатак на нерухомасць;

е) падатак на экспарт і імпарт;

ж) зямельны падатак (плата за зямлю);

з) падатак на паліва;

і) транзітны падатак;

к) дзяржаўная пошліна і зборы;

л) падаходны падатак з грамадзян.

Аб'екты абкладання, парадак выплаты, стаўкі, ільготы па кожнаму канкрэтнаму віду падатку і збору прадугледжваюцца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4. Ільготы па падатках і зборах**

Ільготы па падатках і зборах устанаўліваюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў або па іх даручэнню выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў могуць вызваляць ад выплаты падаткаў асобных плацельшчыкаў поўнасцю або часткова ў той частцы падаткаў, якія выплачваюцца ў мясцовыя бюджэты.

**Артыкул 5. Устараненне двайнога падаткаабкладання**

1. Адзін і той жа аб'ект можа абкладацца падаткам аднаго віду толькі адзін раз за адпаведны перыяд выплаты.

2. Сума прыбытку або даходу, атрыманая за межамі рэспублікі, уключаецца ў агульную суму прыбытку або даходу, якая падлягае падаткаабкладанню ў Рэспубліцы Беларусь, і ўлічваецца пры вызначэнні размеру падатку, калі іншае не ўстаноўлена міжнароднымі пагадненнямі, ратыфікаванымі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

3. Сумы падаткаў на прыбытак або даходы, атрыманыя за межамі тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, выплачаныя прадпрыемствамі, аб'яднаннямі і арганізацыямі за межамі тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з заканадаўствам іншых дзяржаў, залічваюцца пры выплаце імі падаткаў з прыбытку або даходаў у Рэспубліцы Беларусь. Пры гэтым размер залічваемых сум не можа перавышаць суму падатку на прыбытак (даход), якая падлягае выплаце ў Рэспубліцы Беларусь у адносінах да прыбытку (даходу), атрыманага за межамі рэспублікі.

4. Прыбытак, што атрымліваецца ад мерапрыемстваў, даходы ад якіх абкладаюцца падаткам на даход, у складзе падаткаабкладаемага прыбытку не ўлічваецца і падаткам на прыбытак не абкладаецца.

**Артыкул 6. Тэрміны і парадак выплаты падатку**

Тэрміны выплаты падатку ў бюджэт, парадак прадстаўлення плацельшчыкамі справаздач, разлікаў (дэкларацый) аб сумах вылічаных плацяжоў вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Правы падаткаплацельшчыкаў**

Падаткаплацельшчыкі маюць права:

а) знаёміцца з актамі праведзеных праверак;

б) прадстаўляць падатковым органам тлумачэнні па вылічэнню і выплаце падаткаў і па актах праведзеных праверак;

в) ва ўстаноўленым законам парадку абскарджваць рашэнні падатковых органаў;

г) знаёміцца ў падатковых інспекцыях з усімі актамі падатковага заканадаўства, якія прымяняюцца ў адносінах да дадзенага плацельшчыка падаткаў, а таксама з актамі праведзеных у яго праверак;

д) патрабаваць ад падатковых органаў афіцыяльных растлумачэнняў па вылічэнню і выплаце падаткаў і па актах праведзеных у дадзенага плацельшчыка падаткаў праверак, а таксама прадстаўляць падатковым органам свае тлумачэнні па вылічэнню і выплаце падаткаў і па актах праведзеных у дадзенага плацельшчыка падаткаў праверак.

**Артыкул 8. Абавязкі плацельшчыкаў**

1. Плацельшчыкі падаткаў, прадугледжаных гэтым Законам, абавязаны:

а) зарэгістравацца ў якасці плацельшчыка падаткаў у дзяржаўнай падатковай інспекцыі па месцы свайго знаходжання або пражывання.

Банкі і іншыя крэдытна-фінансавыя ўстановы адкрываюць разліковыя і іншыя рахункі кліентам толькі пры прад'яўленні дакументаў аб рэгістрацыі іх у дзяржаўнай падатковай інспекцыі ў якасці плацельшчыкаў;

б) весці ва ўстаноўленым парадку бухгалтарскі ўлік і справаздачнасць аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці і прадстаўляць падатковым органам бухгалтарскія справаздачы і балансы, разлікі па падатках, дэкларацыі і іншыя неабходныя дакументы і звесткі, звязаныя з вылічэннем і выплатай падаткаў;

в) прад'яўляць, а ў адпаведных выпадках прадстаўляць у падатковыя органы дакументы, якія пацвярджаюць права на льготы па падатках;

г) своечасова і ў поўным размеры выплачваць належныя сумы падаткаў;

д) аказваць садзейнічанне службовым асобам падатковых органаў у іх дзейнасці па праверцы вылічэння і выплаты падаткаў дадзеным плацельшчыкам.

2. Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія рэалізуюць прадукцыю (работы, паслугі) за наяўны разлік, абавязаны ажыццяўляць прыём грашовых сродкаў на аснове прыходных касавых ордэраў, адрыўных талонаў (білетаў) або пры дапамозе касавых суміруючых апаратаў.

Прыходныя касавыя ордэры, талоны (білеты), а таксама касавыя суміруючыя апараты падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў падатковых органах. Выкарыстанне прыходных касавых ордэраў, адрыўных талонаў (білетаў), якія не адпавядаюць патрабаванням Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, забараняецца.

Парушэнне вышэйуказанага парадку прыёму грашовых сродкаў пры рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) за наяўны разлік, а таксама выкарыстанне прыходных касавых ордэраў, адрыўных талонаў (білетаў), якія не адпавядаюць патрабаванням Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, разглядаецца як утойванне даходу.

3. Кіраўнікі і адпаведныя службовыя асобы прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый абавязаны падпісаць акт праверкі, праведзенай падатковым органам, а ў выпадку нязгоды з фактамі, выкладзенымі ў акце, прадставіць у пяцідзённы тэрмін пісьмовыя тлумачэнні матываў нязгоды. Яны таксама абавязаны выконваць патрабаванні падатковага органа аб устараненні выяўленых парушэнняў заканадаўства аб падатках.

4. Плацельшчыкі падатку, якія ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадстаўляюць падатковым органам бухгалтарскія справаздачы і балансы, разлікі па падатках або дэкларацыю аб даходах пасля праверкі іх гаспадарчаразліковай аўдытарскай арганізацыяй, абавязаны на працягу года, што ідзе за справаздачным, прадставіць у падатковы орган дакумент, які пацвярджае факт праверкі.

Да плацельшчыкаў, якія не прадставілі ўказаны дакумент, прымяняюцца меры, прадугледжаныя артыкулам 9 гэтага Закона.

Указаныя меры не прымяняюцца, калі праверка не праведзена ва ўстаноўленыя тэрміны не па віне плацельшчыка.

**Артыкул 9. Меры адказнасці плацельшчыкаў**

1. Плацельшчыкі падаткаў нясуць устаноўленую заканадаўствам Рэспублікі Беларусь адказнасць за правільнасць вылічэння, своечасовасць выплаты падаткаў у бюджэт і выкананне дзеючага заканадаўства аб падаткаабкладанні.

2. Плацельшчыкі падаткаў, прадугледжаных гэтым Законам, якія не маюць да тэрміну, устаноўленага для выплаты падаткаў, бухгалтарскіх справаздач і балансаў, разлікаў і дэкларацый па падатках па ўстаноўленай форме за адпаведны справаздачны перыяд, выплачваюць 110 працэнтаў сумы падатку, вылічанага за папярэдні справаздачны перыяд. Пасля прадстаўлення названых дакументаў праводзіцца пераразлік падатку зыходзячы з фактычна атрыманага прыбытку, даходу абкладаемага абароту і іншых аб'ектаў падаткаабкладання.

3. Плацельшчыкам, якія своечасова не прадставілі дэкларацыі аб даходах, што падлягаюць падаткаабкладанню падатковымі органамі, прад'яўляецца падатковым органам паведамленне аб выплаце падаткаў у размеры 150 працэнтаў сумы падатку, выплачанай за папярэдні справаздачны перыяд, або ў размеры, умоўна разлічаным на аснове інфармацыі аб даходах, якую мае падатковы орган. Пасля прадстаўлення названага дакумента і яго праверкі праводзіцца пераразлік падатку зыходзячы з фактычна атрыманага даходу з утрыманнем 10 працэнтаў ад належнай сумы падатку.

4. Пры адсутнасці ўліку прыбытку (даходу) або вядзенні гэтага ўліку з парушэннем устаноўленага парадку, а таксама пры непрадстаўленні, несвоечасовым прадстаўленні падатковым органам справаздач, разлікаў і іншых дакументаў, неабходных для вылічэння і выплаты падаткаў, непрадстаўленні або несвоечасовым прадстаўленні плацежных дакументаў ва ўстановы банкаў на ўзнос плацяжоў у бюджэт плацельшчыкі падаткаў уносяць у бюджэт у выглядзе санкцый 10 працэнтаў належных сум падаткаў.

5. У выпадку ўтойвання, заніжэння прыбытку (даходу) або ўтойвання іншых аб'ектаў падаткаабкладання з плацельшчыкаў у даход бюджэту спаганяецца ўся сума ўтоенага, заніжанага прыбытку (даходу) або сума падатку за іншы ўтоены аб'ект падаткаабкладання, а таксама штраф у падвоеным размеры, а пры паўторным парушэнні на працягу года (12 месяцаў) — штраф у трайным размеры. Сумы ўтоенага, заніжанага прыбытку (даходу), а таксама сумы падатку за ўтойванне іншага аб'екта падаткаабкладання і штрафу ўносяцца ў бюджэт за кошт прыбытку (даходу), які застаецца ў распараджэнні плацельшчыка.

6. Даходы, атрыманыя плацельшчыкам ад заняцця забароненымі відамі дзейнасці, а таксама ад дзейнасці, на заняцце якой патрабуецца атрыманне спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), што ажыццяўляецца без такога дазволу (ліцэнзіі), і штраф у размеры атрыманага даходу ад гэтай дзейнасці падлягаюць унясенню ў бюджэт за кошт прыбытку, які застаецца ў распараджэнні плацельшчыка.

7. Утойванне даходаў, атрыманых у замежнай валюце, цягне пераразлік сумы даходаў па курсу валюты, які дзейнічае на дату аплаты рахункаў.

8. Сумы ўтоенага, заніжанага прыбытку (даходу) або сумы падатку за іншы ўтоены аб'ект падаткаабкладання, а таксама штраф павінны быць выплачаны плацельшчыкам у бюджэт у 10-дзённы тэрмін з дня складання службовымі асобамі падатковых органаў акта аб выяўленых парушэннях.

9. Сумы ўтоенага, заніжанага прыбытку (даходу) або сумы падатку за іншы ўтоены аб'ект падаткаабкладання, а таксама сумы фінансавых санкцый пералічваюцца: прадпрыемствамі мясцовай гаспадаркі, спажывецкай кааперацыі, грамадскіх аб'яднанняў, кааператывамі, калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі ў даход мясцовага бюджэту, астатнімі — у даход рэспубліканскага бюджэту.

Сумы фінансавых санкцый з фізічных асоб залічваюцца ў даход мясцовых бюджэтаў.

10. Падатковыя органы маюць права прыпыняць аперацыі прадпрыемстваў па разліковых і іншых рахунках у банках і іншых фінансава-крэдытных установах у выпадках: непрадстаўлення або адмовы прадставіць дзяржаўным падатковым інспекцыям і іх службовым асобам бухгалтарскія справаздачы і балансы, а таксама разлікі, дэкларацыі і іншыя дакументы, звязаныя з вылічэннем і выплатай падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт; устанаўлення фактаў утойвання прыбытку (даходу) або іншых аб'ектаў падаткаабкладання.

11. Па патрабаванню падатковых органаў банкі, іншыя фінансава-крэдытныя ўстановы і біржы абавязаны прадстаўляць неабходныя звесткі аб фінансавых і фінансава-крэдытных аперацыях плацельшчыкаў-кліентаў гэтых устаноў. У выпадку непрадстаўлення такіх звестак у тэрмін, устаноўлены падатковым органам, на кіраўнікоў указаных устаноў падатковым органам можа быць накладзены штраф у размеры ад 500 да 3000 рублёў.

12. Падатковымі органамі накладаюцца адміністрацыйныя штрафы:

на кіраўнікоў прадпрыемстваў і грамадзян, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, парушылі парадак пастаноўкі на падатковы ўлік у дзяржаўных падатковых інспекцыях Рэспублікі Беларусь, у размеры ад 200 да 2000 рублёў;

на кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія займаюцца забароненай дзейнасцю, — у размеры ад 3000 да 10000 рублёў са спагнаннем усёй сумы выручкі, атрыманай ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) ад гэтай дзейнасці;

на службовых асоб прадпрыемстваў, вінаватых: у заніжэнні, утойванні прыбытку (даходу) або неўлічэнні (утойванні) іншых аб'ектаў абкладання падаткамі ці іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт; няпоўным, несвоечасовым пералічэнні ўтрыманых сум у бюджэт, а таксама ў адсутнасці бухгалтарскага ўліку або вядзенні яго з парушэннем устаноўленага парадку, у несвоечасовым прадстаўленні бухгалтарскіх справаздач, балансаў, падатковых разлікаў, дэкларацый і іншых дакументаў, звязаных з вылічэннем і выплатай падаткаў і іншых плацяжоў у бюджэт, — у размеры ад 500 да 3000 рублёў;

на грамадзян, што займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю без дзяржаўнай рэгістрацыі, а таксама ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць, заняцце якой забаронена, або што займаюцца дзейнасцю, якая патрабуе атрымання спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), пры адсутнасці такога дазволу, — у размеры ад 500 да 3000 рублёў;

на грамадзян, што займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю і ўтойваюць, заніжаюць прыбытак, даходы або іншыя аб'екты падаткаабкладання, ухіляюцца ад падачы дэкларацыі аб даходах і расходах ад заняцця прадпрымальніцкай дзейнасцю і аб іншых даходах, якія абкладаюцца падаходным падаткам, — у размеры ад 500 да 3000 рублёў;

на кіраўнікоў і іншых службовых асоб прадпрыемстваў, якія не выконваюць патрабаванняў службовых асоб дзяржаўных падатковых інспекцый рэспублікі, што вынікаюць з гэтага Закона, — у размеры ад 500 да 1500 рублёў; на грамадзян, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, за тыя ж дзеянні — у размеры ад 100 да 500 рублёў.

У выпадку невыканання пастановы начальніка (яго намесніка) дзяржаўнай падатковай інспекцыі аб спагнанні адміністрацыйнага штрафу з заработку кіраўнікоў або службовых асоб штраф спаганяецца ў бясспрэчным парадку з прадпрыемства, арганізацыі або ўстановы з далейшым пакрыццём урону за кошт вінаватай асобы.

Пры нявыплаце грамадзянамі, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, адміністрацыйных штрафаў гэтыя сумы спаганяюцца ў судовым парадку.

13. Наўмыснае ўтойванне, заніжэнне прыбытку, даходаў або іншых аб'ектаў падаткаабкладання, а таксама ўхіленне ад падачы дэкларацыі аб даходах і расходах ад заняцця прадпрымальніцтвам і аб іншых даходах, якія абкладаюцца падаходным падаткам, учыненыя пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне, цягнуць крымінальную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Парадак спагнання ў бюджэт і вяртання з бюджэту выплачаных падаткаў**

1. Сумы падаткаў, не ўнесеныя ва ўстаноўленыя тэрміны, а таксама сумы ўтоеных (заніжаных) прыбытку (даходу) і падаткаў за іншы ўтоены аб'ект падаткаабкладання, пені за несвоечасовае ўнясенне плацяжоў спаганяюцца за ўвесь час ухілення ад выплаты па распараджэнню падатковых органаў у бясспрэчным парадку.

Належныя ў даход бюджэту сумы (запазычанасць па плацяжах, фінансавыя санкцыі, штрафы) пры недастатковасці рублёвых сродкаў і наяўнасці замежнай валюты на валютных рахунках плацельшчыкаў выплачваюцца ў валюце па курсу, які дзейнічае на дату спагнання.

2. Своечасова нявыплачаныя сумы падаткаў спаганяюцца за ўвесь час запазычанасці бюджэту з налічэннем пені ў размеры 0,2 працэнта за кожны дзень пратэрміноўкі (уключаючы дзень выплаты).

3. Падатак з сум, якія падлягаюць абкладанню ў крыніцы іх выплаты, своечасова не ўтрыманы, утрыманы не поўнасцю або не пералічаны ў бюджэт, спаганяецца ў бясспрэчным парадку падатковым органам з прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, што выплацілі гэтыя сумы прадпрыемствам або грамадзянам.

Спагнанне нядоімак па падатках і іншых абавязковых плацяжах у бюджэт, а таксама штрафаў, фінансавых і іншых санкцый, прадугледжаных гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, з плацельшчыкаў, пры адсутнасці ў іх грашовых сродкаў, накіроўваецца на іх маёмасць.

Сумы плацяжоў па падатках, залішне паступіўшыя ў выніку няправільнага іх вылічэння або парушэння ўстаноўленага парадку спагнання, па заяве плацельшчыка падлягаюць вяртанню або заліку ў лік іншых належных з плацельшчыка сум, калі не мінуў гадавы тэрмін з дня іх паступлення.

Падача заявы аб вяртанні залішне паступіўшых сум плацяжоў перарывае ход указанага тэрміну.

Вяртанне няправільна выплачаных падаткаў з бюджэту праводзіцца не больш чым за адзін год да выяўлення няправільнай выплаты.

**Артыкул 11. Кантроль падатковых органаў**

Кантроль за правільнасцю прымянення заканадаўства аб падатках ажыццяўляецца дзяржаўнымі падатковымі органамі Рэспублікі Беларусь.

За выдаванне камерцыйнай тайны і іншыя неправамерныя дзеянні службовыя асобы дзяржаўнай падатковай інспекцыі нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Абскарджанне дзеянняў службовых асоб падатковых органаў**

1. Скаргі на дзеянні службовых асоб падатковых органаў, допушчаныя імі пры збіранні падаткаў, падаюцца ў той орган, якому гэтыя асобы непасрэдна падпарадкаваны. Скаргі разглядаюцца і рашэнні па іх выносяцца не пазней 30-дзённага тэрміну з моманту іх паступлення.

Рашэнні па скаргах могуць быць абскарджаны ў месячны тэрмін у вышэйстаячы падатковы орган або ў народны суд па месцы знаходжання плацельшчыка падатку.

2. Абскарджанне дзеянняў службовых асоб падатковых органаў, звязаных з накладаннем адміністрацыйнага спагнання, праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

3. Падача скаргі не прыпыняе спагнання падаткаў. Орган, які разглядае скаргі, мае права прыпыніць збіранне належнай сумы падатку да вырашэння скаргі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

20 снежня 1991 г. г. Мінск.

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь» з 1 студзеня 1992 года.

2. Спыніць пачынаючы з 1 студзеня 1992 года збіранне падатку на халасцякоў, адзінокіх і маласямейных грамадзян.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

пры распрацоўцы закона аб падатковай інспекцыі прадугледзець адказнасць службовых асоб падатковых органаў за выдаванне камерцыйнай тайны і іншыя неправамерныя дзеянні;

да 1 лютага 1992 года:

вырашыць пытанні паляпшэння матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння падатковых органаў і павелічэння колькасці работнікаў, якія кантралююць паступленне плацяжоў у бюджэт;

прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь», а таксама прывесці ў адпаведнасць з гэтым Законам і пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 1992 года ўстанавіць парадак залічэння ў бюджэт падаткаў і збораў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

20 снежня 1991 г. г. Мінск.

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб Узброеных Сілах, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць усе фарміраванні Узброеных Сіл на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, за выключэннем войск, якія ўваходзяць у склад стратэгічных сіл, пералік якіх вызначыць сумесна з галоўнакамандуючым Узброенымі Сіламі Садружнасці Незалежных Дзяржаў і зацвердзіць адпаведным Дагаворам.

Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь утварыць са складу народных дэпутатаў і членаў урада Рэспублікі Беларусь камісію на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь для правядзення экстранных перагавораў з кіраўнікамі дзяржаў, якія ўвайшлі ў склад СНД, па пытаннях вызначэння парадку ўтрымання, забеспячэння і рэфарміравання Узброеных Сіл Садружнасці Незалежных Дзяржаў, сацыяльнай абароны ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў.

2. Да назначэння міністра абароны Рэспублікі Беларусь пацвердзіць паўнамоцтвы камандуючага БВА генерал-палкоўніка Кастэнкі А. І., даручыць яму кантроль над усімі Узброенымі Сіламі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ўскласці на яго адказнасць за захаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы Узброеных Сіл на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Кіраўніцтва стратэгічнымі сіламі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца аб'яднаным камандаваннем стратэгічнымі сіламі дзяржаў — удзельніц СНД.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіць Палажэнне аб Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь, вызначыўшы структуру і парадак яго фарміравання.

4. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю ў I квартале 1992 года падрыхтаваць праекты законаў аб абароне Рэспублікі Беларусь, аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, аб сацыяльнай абароне ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў і ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

5. Прыняць Заяву Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах былога Саюза ССР» і давесці яе тэкст да ведама вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц СНД.

6. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

11 студзеня 1992 г. г. Мінск.

## *Заява Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб Узброеных Сілах былога Саюза ССР

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокую заклапочанасць тым, што працэс вырашэння пытанняў аб лёсе Узброеных Сіл былога Саюза ССР у апошні час набывае неканструктыўны, небяспечны характар і выходзіць за рамкі пагадненняў паміж дзяржавамі — членамі СНД па гэтай праблеме. Такое развіццё падзей можа прывесці да крайне непажаданых вынікаў і пагражае перайсці ў рэчышча сілавога процістаяння паміж асобнымі дзяржавамі.

У сувязі з гэтым Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **заяўляе:**

1. У пытанні аб лёсе Узброеных Сіл былога Саюза ССР альтэрнатывы перагаворнаму працэсу быць не павінна, а перагаворы неабходна весці строга ў рамках адпаведных дагаворанасцей паміж кіраўнікамі дзяржаў — членаў СНД.

2. Паважаючы правы дзяржаў — членаў СНД на самастойную ваенную палітыку і пацвярджаючы сваё імкненне да стварэння незалежнай, нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заклікае дзяржавы, якія ўваходзяць у СНД, неадкладна прыступіць да перагавораў аб лёсе Узброеных Сіл былога Саюза ССР.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заклікае Вярхоўныя Саветы Расіі і Украіны, а таксама кіраўнікоў гэтых дзяржаў на час перагавораў устрымацца ад любых аднабаковых дзеянняў, здольных дэстабілізаваць сітуацыю.

У выпадку зрыву гэтага перагаворнага працэсу Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пакідае за сабой права ў аднабаковым парадку прымаць рашэнні па рэалізацыі ваеннай палітыкі Рэспублікі Беларусь.

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.**

11 студзеня 1992 г. г. Мінск.

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб вайсковай прысязе

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць тэкст вайсковай прысягі (прыкладаецца).

2. Устанавіць, што вайсковую прысягу на дзяржаўнай мове прымаюць ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, прызваныя ва Узброеныя Сілы пачынаючы з лістапада 1991 года.

3. Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь да 20 студзеня 1992 года зацвердзіць Палажэнне аб парадку прыняцця вайсковай прысягі.

4. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

11 студзеня 1992 г. г. Мінск.

*ЗАЦВЕРДЖАНА ПАСТАНОВАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 11 СТУДЗЕНЯ 1992 г.*

## ВАЙСКОВАЯ ПРЫСЯГА

Я (прозвішча, імя, імя па бацьку), паступаючы на вайсковую службу, прысягаю на вернасць Рэспубліцы Беларусь і яе народу.

Клянуся свята выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, вайсковыя статуты, загады камандзіраў і начальнікаў, высока несці гонар і годнасць воіна, не шкадуючы свайго жыцця, абараняць народ і дзяржаўныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь.

Абавязуюся праходзіць вайсковую службу ў любым месцы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ці за яе межамі, куды мяне накіруе Урад Рэспублікі Беларусь.

Калі ж я парушу прынятую мной вайсковую прысягу, то гатовы несці адказнасць, устаноўленую законамі Рэспублікі Беларусь.

*ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## АБ ПАДАТКУ ЗА КАРЫСТАННЕ ПРЫРОДНЫМІ РЭСУРСАМІ (ЭКАЛАГІЧНЫ ПАДАТАК)

**Артыкул 1. Плацельшчыкі падатку**

Плацельшчыкамі падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі з'яўляюцца аб'яднанні, прадпрыемствы, арганізацыі, іх філіялы, прадстаўніцтвы, аддзяленні і іншыя адасобленыя падраздзяленні, што ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь незалежна ад падпарадкаванасці і форм уласнасці, а таксама фізічныя асобы, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Парадак выплаты падатку ў сувязі з выкарыстаннем зямельных участкаў рэгулюецца спецыяльным законам.

**Артыкул 2. Аб'екты падаткаабкладання**

1. Падаткам абкладаюцца аб'ёмы рэсурсаў, якія здабываюцца з прыроднага асяроддзя, а таксама выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў, што выводзяцца ў навакольнае асяроддзе.

2. Падатак складаецца з плацяжоў за карыстанне прыроднымі рэсурсамі і за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе ў межах устаноўленых лімітаў, а таксама за перарасход прыродных рэсурсаў і за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе звыш зацверджаных лімітаў.

3. Ліміты здабываемых прыродных рэсурсаў устанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў па ўзгадненню з органамі Дзяржаўнага камітэта па экалогіі Рэспублікі Беларусь.

4. Ліміты допушчальных выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Дзяржаўнага камітэта па экалогіі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3. Стаўкі падатку**

1. Стаўкі падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі і за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Дзяржаўнага камітэта па экалогіі Рэспублікі Беларусь.

2. За выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе звыш устаноўленых лімітаў падатак спаганяецца ў 5-кратным размеры.

3. За перавышэнне ўстаноўленых аб'ёмаў здабычы прыродных рэсурсаў падатак спаганяецца ў 3-кратным размеры.

**Артыкул 4. Ільготы па падатку**

Падатак спаганяецца па льготных стаўках:

а) за ваду, адпушчаную для гаспадарча-пітнога і проціпажарнага водазабеспячэння насельніцтва, работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый;

б) за ваду, якая забіраецца рыбаводнымі заводамі і сажалкавымі гаспадаркамі;

в) за падземныя воды, якія здабываюцца з нетраў адначасова са здабычай карысных выкапняў або ў мэтах прадухілення (ліквідацыі) шкоднага ўздзеяння гэтых водаў (падтапленне, засаленне, забалочванне і іншыя);

г) за ваду, адпушчаную юрыдычным і фізічным асобам для вытворчасці прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі;

д) за пясок і гравійна-пясчаную сумесь, якія выкарыстоўваюцца ў дарожным будаўніцтве.

**Артыкул 5. Парадак выплаты і залічэння падатку ў бюджэт**

1. Падатак за карыстанне прыроднымі рэсурсамі вылічваецца юрыдычнымі і фізічнымі асобамі зыходзячы з фактычнага аб'ёму здабычы прыродных рэсурсаў і выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе штомесячна.

2. Разлікі па падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі прадстаўляюцца падатковым органам не пазней 15 чысла кожнага месяца і плацяжы ўносяцца ў бюджэт да 20 чысла месяца, што ідзе за справаздачным.

3. Па ўзгадненню з падатковымі органамі юрыдычныя і фізічныя асобы могуць уносіць плацяжы ў бюджэт адзін раз у квартал пры сярэднямесячнай суме плацяжу да 50 тыс. рублёў, а пры большай суме плацяжу — на працягу месяца авансавымі плацяжамі, з наступным пераразлікам за месяц.

4. Падатак за карыстанне прыроднымі рэсурсамі поўнасцю залічваецца ў даходы мясцовых бюджэтаў, за выключэннем падатку за здабычу нафты, солі калійнай і кухоннай, ад якога 50 працэнтаў сумы падатку падлягае залічэнню ў даход рэспубліканскага бюджэту.

Падатак за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе, поўнасцю залічваецца ў даходы мясцовых бюджэтаў.

5. Унесеныя сумы падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі і выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе ў межах устаноўленых лімітаў адносяцца на выдаткі вытворчасці, а за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе звыш устаноўленых лімітаў — за кошт прыбытку, які застаецца ў распараджэнні прадпрыемства.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)» з 1 студзеня 1992 года.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін:

устанавіць стаўкі падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі і за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе, ліміты здабычы нафты, калійнай і кухоннай солі, ліміты допушчальных выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)»;

зацвердзіць інструкцыю па спагнанню падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі.

3. Мясцовым Саветам народных дэпутатаў устанавіць ліміты здабычы прыродных рэсурсаў, акрамя зацвярджаемых Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб акцызах

**Артыкул 1. Плацельшчыкі акцызаў**

Плацельшчыкамі акцызаў з'яўляюцца прадпрыемствы, аб'яднанні, арганізацыі, іх філіялы, аддзяленні, прадстаўніцтвы і іншыя адасобленыя падраздзяленні незалежна ад падпарадкаванасці і форм уласнасці, на якой яны заснаваны*, што ажыццяўляюць вытворчую і камерцыйную дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, вырабляюць тавары (выконваюць работы, аказваюць паслугі), на якія ўстаноўлены стаўкі акцызаў.

**Артыкул 2. Аб'ект абкладання**

Акцызамі абкладаюцца тавары (работы, паслугі), якія маюць па спецыфіцы сваіх уласцівасцей манапольна высокія цэны і ўстойлівы попыт.

Аб'ектам абкладання з'яўляецца выручка таваравытворцаў, атрыманая ад рэалізацыі выпрабленай прадукцыі. Пад рэалізацыяй разумеецца продаж, абмен, бязвыплатная перадача тавараў (работ, паслуг), выкарыстанне іх на уласныя патрэбы прадпрыемстваў і арганізацый, не звязаныя з асноўнай вытворчасцю, перадача тавараў (работ, паслуг) у чыю-небудзь уласнасць.

**Артыкул 3. Абкладаемая прадукцыя і стаўкі акцызаў**

Стаўкі акцызаў устанаўліваюцца ў працэнтах да выручкі ад рэалізацыі па наступных таварах (вырабах):

| | |
|---|---|
| Спірт**, лікёра-гарэлачныя вырабы, спіртаўтрымліваючыя вадкія харчовыя экстракты | 88 |
| Сухія віны, пладова-ягадныя і вінаградныя мацаваныя віны | 50 |
| Шампанскае, пеністыя віны | 30 |
| Каньяк | 60 |
| Мясная і рыбная далікатэсная прадукцыя | 30 |
| Тытунёвыя вырабы | 60 |
| Піва | 45 |
| Футра натуральнае*** і вырабы з яго (акрамя футра труса і вырабаў з яго) | 65 |
| Бензін аўтамабільны | 40 |
| Дываны і дывановыя вырабы | 55 |
| Шпалеры | 30 |
| Вырабы з хрусталю | 70 |
| Шыны для легкавых аўтамабіляў | 70 |

Пералік абкладаемых тавараў (работ, паслуг) і стаўкі падатку могуць удакладняцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пры зацвярджэнні бюджэту Рэспублікі Беларусь на чарговы год або ў іншым парадку, устаноўленым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

У выпадках атрымання з дзяржаў, якія ўваходзяць у склад Садружнасці Незалежных Дзяржаў, тавараў, па якіх стаўкі акцызаў перавышаюць дзеючыя ў Рэспубліцы Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах кампенсацыі даходаў, што выпадаюць, мае права змяняць стаўкі акцызаў па таварах, якія вывозяцца за межы Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4. Парадак вылічэння і тэрміны выплаты акцызаў**

Акцызы вылічваюцца ў працэнтах да выручкі ад рэалізацыі абкладаемых тавараў непасрэдна плацельшчыкамі і залічваюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь. Сумы акцызаў уключаюцца ў цану тавараў.

Плацельшчыкі акцызаў ва ўстаноўленым парадку прадстаўляюць падатковым органам разлікі аб сумах акцызаў, якія падлягаюць выплаце ў бюджэт.

Акцызы выплачваюцца ў бюджэт па кожнаму аплачанаму рахунку з выдзяленнем у разліковых дакументах асобным радком сум акцызу.

Пры нязначных сумах акцызаў дзяржаўныя падатковыя інспекцыі па ўзгадненню з фінансавымі органамі могуць устанаўліваць тэрміны выплаты падатку адзін раз у дэкаду або адзін раз у месяц. Пры гэтым дэкадныя плацяжы ўносяцца 5, 15 і 25 чысла зыходзячы з фактычнага абароту за кожную мінулую дэкаду, а месячныя — 15 чысла месяца, які ідзе за справаздачным, зыходзячы з фактычнага абароту за мінулы месяц.

З сум выручкі ў замежнай валюце, атрыманай ад рэалізацыі абкладаемых тавараў (работ, паслуг), акцызы выплачваюцца ў гэтай валюце.

* У далейшым — прадпрыемствы.

** Акрамя спірту, што рэалізуецца для вытворчасці лікёра-гарэлачных вырабаў прадпрыемствам рэспублікі, якім дазволена іх вытворчасць. Пры водпуску апошнімі спірту або выкарыстанні яго для іншых мэт у бюджэт уносяцца сумы акцызаў па ўстаноўленых стаўках.

*** Акрамя футра натуральнага, якое рэалізуецца прадпрыемствам рэспублікі для вырабу футравых вырабаў. Пры водпуску імі футра натуральнага для іншых мэт у бюджэт уносяцца сумы акцызаў ва ўстаноўленым парадку.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 снежня 1991 г. г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб акцызах»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб акцызах» з 1 студзеня 1992 года.

2. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб акцызах» прымяняецца прадпрыемствамі, аб'яднаннямі, арганізацыямі і іншымі плацельшчыкамі, указанымі ў артыкуле 1 гэтага Закона, пры разліках з бюджэтам па таварах, адгружаных і аплачаных з 1 студзеня 1992 года.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін зацвердзіць інструкцыю аб парадку і тэрмінах выплаты акцызаў у адпаведнасці з гэтым Законам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ ПАДАТКУ НА ПАЛІВА

**Артыкул 1. Плацельшчыкі падатку**

Падатак выплачваюць прадпрыемствы, арганізацыі і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць збыт юрыдычным і фізічным асобам бензінаў і дызельнага паліва, сціснутага і звадкаванага газу.

**Артыкул 2. Аб'ект падаткаабкладання**

Аб'ектам падаткаабкладання з'яўляецца выручка ад рэалізацыі бензінаў і дызельнага паліва, сціснутага і звадкаванага газу. Пад рэалізацыяй разумеецца перадача ва ўласнасць, продаж, абмен, бязвыплатная перадача, выкарыстанне на ўласныя патрэбы.

**Артыкул 3. Стаўка падатку**

Стаўка падатку на паліва ўстанаўліваецца ў размеры 20 працэнтаў кошту бензінаў, дызельнага паліва, сціснутага і звадкаванага газу, якія адпускаюцца спажыўцам. Падатак уключаецца ў адпускную цану бензінаў і дызельнага паліва, сціснутага і звадкаванага газу.

**Артыкул 4. Парадак і тэрміны выплаты падатку**

Падатак вылічваецца непасрэдна прадпрыемствамі, арганізацыямі і прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць збыт бензінаў і дызельнага паліва, сціснутага і звадкаванага газу.

Плацельшчыкі падатку прадстаўляюць падатковым органам разлікі аб сумах падатку на паліва, якія падлягаюць выплаце ў бюджэт.

Тэрміны ўнясення падатку вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Залічэнне падатку**

Падатак на паліва залічваецца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь. З сум выручкі ў замежнай валюце, атрыманай ад рэалізацыі паліва, падатак выплачваецца ў гэтай валюце.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1991 г. г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на паліва»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на паліва» з 1 студзеня 1992 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь

Закон устанаўлівае парадак утварэння фінансавых рэсурсаў для ўтрымання і развіцця сеткі аўтамабільных дарог агульнага карыстання і вызначае агульныя прававыя асновы стварэння дарожных фондаў адпаведных органаў дзяржаўнай улады, прызначэнне і выкарыстанне гэтых фондаў, крыніцы сродкаў, якія паступаюць у іх.

**Артыкул 1. Віды і прызначэнне дарожных фондаў**

1. На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь фінансаванне затрат, звязаных з утрыманнем, рамонтам, рэканструкцыяй і будаўніцтвам аўтамабільных дарог агульнага карыстання, ажыццяўляецца ў асноўным за кошт мэтавых сродкаў, якія канцэнтруюцца ў рэспубліканскім і мясцовых дарожных фондах.

2. Сродкі рэспубліканскага і мясцовых дарожных фондаў маюць спецыяльнае прызначэнне і не падлягаюць адабранню або расходаванню на патрэбы, якія не звязаны з утрыманнем і развіццём аўтамабільных дарог агульнага карыстання.

3. Сродкі рэспубліканскага дарожнага фонду накіроўваюцца на фінансаванне ўтрымання, рамонту, будаўніцтва і рэканструкцыі аўтамабільных дарог агульнага карыстання, будаўніцтва і рэканструкцыі аб'ектаў дарожнага сервісу, прадпрыемстваў па вытворчасці дарожна-будаўнічых матэрыялаў і канструкцый, машын і механізмаў, набыцця абсталявання, якія адносяцца да рэспубліканскай уласнасці, а таксама правядзення навукова-тэхнічных распрацовак агульнагаліновага характару, затрат на кіраванне дарожнай гаспадаркай.

4. Сродкі мясцовых дарожных фондаў накіроўваюцца на фінансаванне ўтрымання, рамонту, рэканструкцыі і будаўніцтва аўтамабільных дарог агульнага карыстання, якія адносяцца да камунальнай уласнасці, а таксама затрат на кіраванне дарожнай гаспадаркай.

Абласныя Саветы народных дэпутатаў або ўпаўнаважаныя імі органы выканаўчай улады могуць дазваляць выкарыстоўваць сродкі мясцовых дарожных фондаў на рамонт, рэканструкцыю або будаўніцтва аўтамабільных дарог агульнага карыстання, якія адносяцца да рэспубліканскай уласнасці, на адпаведнай тэрыторыі.

**Артыкул 2. Крыніцы ўтварэння дарожных фондаў**

1. Сродкі дарожных фондаў утвараюцца за кошт:

падатку на паліва;

падатку на набыццё аўтатранспартных сродкаў, якія падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў ДАІ (акрамя легкавых аўтамабіляў і матацыклаў, якія набываюцца грамадзянамі ў прыватную ўласнасць);

транзітнага падатку ў частцы платы за праезд па аўтамабільных дарогах Рэспублікі Беларусь уладальнікамі і карыстальнікамі транспартных сродкаў, якія знаходзяцца і пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і выкарыстоўваюць тэрыторыю рэспублікі для перамяшчэння транспарту, грузаў і пасажыраў;

адлічэнняў сродкаў карыстальнікамі аўтамабільных дарог;

адлічэнняў ад даходаў па эксплуатацыі аўтамабільнага транспарту.

У дарожныя фонды могуць накіроўвацца сродкі ад правядзення мэтавых пазык, латарэй, продажу акцый, нядоімкі і штрафы за нявыплату падаткаў і адлічэнняў, прадугледжаных гэтым Законам, добраахвотныя ўзносы, плата, якая вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, за праезд па аўтамабільных дарогах цяжкавагавых, негабарытных транспартных сродкаў, сродкі ад размяшчэння рэкламы на дарогах, а таксама з іншых крыніц (уключаючы асігнаванні з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў).

2. У рэспубліканскі дарожны фонд залічваюцца:

падатак на паліва;

падатак на набыццё аўтатранспартных сродкаў, якія падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў ДАІ (акрамя легкавых аўтамабіляў і матацыклаў, што набываюцца грамадзянамі ў прыватную ўласнасць);

транзітны падатак у частцы платы за праезд па аўтамабільных дарогах Рэспублікі Беларусь уладальнікамі і карыстальнікамі транспартных сродкаў, якія знаходзяцца і пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і выкарыстоўваюць тэрыторыю рэспублікі для перамяшчэння транспарту, грузаў і пасажыраў;

20 працэнтаў сум адлічэнняў, што ўносяцца карыстальнікамі аўтамабільных дарог;

адлічэнні ад даходаў па эксплуатацыі аўтамабільнага транспарту.

3. У мясцовыя дарожныя фонды залічваюцца 80 працэнтаў сум адлічэнняў, якія ўносяцца карыстальнікамі аўтамабільных дарог.

**Артыкул 3. Падатак на паліва**

Падатак на паліва бярэцца ў парадку і на ўмовах, устаноўленых Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на паліва».

**Артыкул 4. Падатак на набыццё аўтатранспартных сродкаў**

1. Падатак на набыццё аўтатранспартных сродкаў, якія падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў ДАІ (акрамя легкавых аўтамабіляў і матацыклаў, што набываюцца грамадзянамі ў прыватную ўласнасць), выплачваюць пакупнікі гэтых сродкаў да рэгістрацыі, а ў выпадку змены ўладальніка — пры перарэгістрацыі аўтатранспартных сродкаў у наступных памерах:

| Аўтатранспартныя сродкі | Працэнт ад прадажнай цаны |
|---|---|
| Грузавыя аўтамабілі | 10 |
| Пікапы і легкавыя фургоны | 10 |
| Аўтобусы | 20 |
| Спецыяльныя аўтамабілі | 10 |
| Прычэпы і паўпрычэпы | 5 |
| Легкавыя аўтамабілі і матацыклы, | 20 |
| у тым ліку таксаматоры | 10 |

2. Рэгістрацыя або перарэгістрацыя аўтатранспартных сродкаў, пералічаных у пункце 1 гэтага артыкула, без прад'яўлення квітанцыі або плацёжнага даручэння аб выплаце падатку на набыццё аўтатранспартных сродкаў не праводзіцца.

3. Ад выплаты падатку вызваляюцца:

грамадскія арганізацыі інвалідаў, якія выкарыстоўваюць набываемы транспарт для выканання сваёй статутнай дзейнасці;

прадпрыемствы аўтатранспарту агульнага карыстання па транспартных сродках, якія заняты перавозкай пасажыраў (акрамя таксі);

прадпрыемствы, якія ажыццяўляюць будаўніцтва, рамонт і ўтрыманне аўтамабільных дарог агульнага карыстання;

калгасы, саўгасы, сялянскія (фермерскія) гаспадаркі, міжгаспадарчыя прадпрыемствы і арганізацыі, сельскагаспадарчыя кааператывы і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы;

арганізацыі і ўстановы, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце.

**Артыкул 5. Транзітны падатак**

Транзітны падатак бярэцца ў парадку, які вызначаны Законам Рэспублікі Беларусь «Аб транзітным падатку», калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Адлічэнні сродкаў карыстальнікамі аўтамабільных дарог**

1. Прадпрыемствы, аб'яднанні, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання адлічваюць сродкі за карыстанне аўтамабільнымі дарогамі ў наступных размерах:

калгасы, саўгасы і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы — 0,5 працэнта ад аб'ёму выробленай прадукцыі (работ, паслуг);

нарыхтоўчыя, гандлёвыя (у тым ліку аптовыя) забеспячэнска-збытавыя — 0,3 працэнта гадавога абароту (без абароту па грамадскаму харчаванню);

астатнія — 1 працэнт ад аб'ёму выробленай імі прадукцыі (работ, паслуг).

Прадпрыемствы, аб'яднанні, установы і арганізацыі могуць замяняць адлічэнні сродкаў непасрэдным выкананнем дарожных работ, вырабам і пастаўкай будаўнічых матэрыялаў і канструкцый, дэталяў, машын, механізмаў і абсталявання ў парадку і аб'ёмах па ўзгадненню з адпаведнымі дарожнымі арганізацыямі.

2. Ад выплаты адлічэнняў вызваляюцца:

арганізацыі і ўстановы, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце;

жыллёва - эксплуатацыйныя арганізацыі;

дарожныя арганізацыі, якія ажыццяўляюць будаўніцтва, рамонт і ўтрыманне аўтамабільных дарог агульнага карыстання;

грамадскія арганізацыі інвалідаў.

**Артыкул 7. Адлічэнні ад даходаў па эксплуатацыі аўтамабільнага транспарту**

Аўтатранспартныя прадпрыемствы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання, а таксама прадпрыемствы і арганізацыі (акрамя калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў), якія маюць аўтамабільныя гаспадаркі, адлічваюць на дарожныя работы 2 працэнты ад даходаў па эксплуатацыі аўтамабільнага транспарту.

**Артыкул 8. Улік падатковых плацяжоў і адлічэнняў**

Сума падатковых плацяжоў і адлічэнняў, указаных у артыкулах 3, 6 і 7 дадзенага Закона, уключаецца прадпрыемствамі, аб'яднаннямі, установамі і арганізацыямі ў склад затрат па вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг).

**Артыкул 9. Парадак фарміравання і выкарыстання сродкаў дарожных фондаў**

Парадак фарміравання і выкарыстання сродкаў дарожных фондаў, прадугледжаных гэтым Законам, вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Адказнасць за нявыплату падатковых плацяжоў і адлічэнняў**

Адказнасць за нявыплату пералічаных у гэтым Законе падатковых плацяжоў і адлічэнняў устанаўліваецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь». Нядоімкі па падатках, адлічэннях і сумы штрафаў спаганяюцца ў дарожныя фонды.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь» з 1 студзеня 1992 года.

Артыкул 5 уводзіцца ў дзеянне з моманту ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб транзітным падатку».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

вызначыць да 1 лютага 1992 года парадак фарміравання і выкарыстання сродкаў дарожных фондаў;

прадставіць да 1 лютага 1992 года ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь»;

прывесці ў студзені 1992 года рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь»;

прааналізаваць па выніках работы за 1992 год забяспечанасць у адпаведнасці з указаным Законам дарожных работ крыніцамі фінансавання і пры неабходнасці прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні паправак у гэты Закон.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб фарміраванні і выкарыстанні мінімальнага спажывецкага бюджэту

Гэтым Законам вызначаюцца прынцыпы фарміравання і выкарыстання, парадак зацвярджэння і перагляду мінімальных спажывецкіх бюджэтаў, якія з'яўляюцца асновай для сацыяльных нарматываў.

**Артыкул 1. Паняцце мінімальнага спажывецкага бюджэту**

Мінімальны спажывецкі бюджэт уяўляе сабой расходы на набыццё набору спажывецкіх тавараў і паслуг для задавальнення асноўных фізіялагічных і сацыяльна-культурных патрэбнасцей чалавека.

**Артыкул 2. Назначэнне мінімальнага спажывецкага бюджэту**

Мінімальны спажывецкі бюджэт выкарыстоўваецца як сацыяльны нарматыў для:

прагназіравання змяненняў узроўню жыцця насельніцтва;

узмацнення сацыяльнай абароны і падтрымкі найменш абароненых слаёў насельніцтва;

вызначэння мінімальных размераў заработнай платы, пенсій, стыпендый, дапамог і іншых сацыяльных выплат;

распрацоўкі сацыяльных праграм дапамогі насельніцтву, фарміравання сістэмы народнагаспадарчых прапорцый і прыярытэтаў, якія забяспечваюць паэтапнае набліжэнне спажывання грамадзян да навукова абгрунтаванага ўзроўню.

**Артыкул 3. Склад і парадак фарміравання мінімальных спажывецкіх бюджэтаў**

Мінімальныя спажывецкія бюджэты распрацоўваюцца для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп у сярэднім на душу насельніцтва і на аднаго члена сям'і рознага складу.

Натуральна-рэчавая структура мінімальнага спажывецкага бюджэту фарміруецца нарматыўным метадам на аснове сістэмы спажывецкіх кошыкаў.

Вартасная велічыня мінімальнага спажывецкага бюджэту вызначаецца зыходзячы с сярэдніх цэн пакупкі ва ўсіх відах гандлю адпаведных тавараў і паслуг.

Падлічэнне мінімальнага спажывецкага бюджэту ажыццяўляецца дзяржаўнымі органамі з улікам прапаноў прафсаюзаў, аб'яднанняў спажыўцоў і іншых грамадскіх аб'яднанняў.

**Артыкул 4. Спажывецкі кошык**

Спажывецкі кошык — гэта навукова абгрунтаваны збалансаваны набор тавараў і паслуг, якія задавальняюць канкрэтныя функцыянальныя патрэбнасці чалавека ў вызначаныя адрэзкі часу, зыходзячы з канкрэтных умоў і асаблівасцей, што склаліся ў рэспубліцы.

Спажывецкі кошык фарміруецца па асноўных артыкулах расходаў чалавека або сям'і на:

харчаванне, уключаючы хлеб і хлебапрадукты, мяса і мясапрадукты, малако і малакапрадукты, яйкі, масла, рыбу і рыбапрадукты, бульбу, гародніну, садавіну і ягады, алей і маргарын, цукар і кандытарскія вырабы, іншыя прадукты;

адзенне, бялізну, абутак;

лякарствы, прадметы санітарыі і гігіены;

мэблю, прадметы культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння;

жыллё і камунальныя паслугі;

культурна-асветніцкія мерапрыемствы і адпачынак;

бытавыя паслугі, транспарт, сувязь;

утрыманне дзяцей у дашкольных установах.

**Артыкул 5. Парадак зацвярджэння і перагляду мінімальнага спажывецкага бюджэту**

Мінімальны спажывецкі бюджэт зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Вартасная велічыня мінімальнага спажывецкага бюджэту пераглядаецца па меры неабходнасці з улікам росту спажывецкіх цэн, але не радзей аднаго разу ў квартал.

Структура і склад спажывецкіх кошыкаў пераглядаюцца з улікам сацыяльна-эканамічнага развіцця і змяненняў у нормах спажывання Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь з удзелам прафсаюзаў, аб'яднанняў спажыўцоў і іншых грамадскіх аб'яднанняў не радзей аднаго разу ў пяць гадоў.

**Артыкул 6. Публікацыя звестак аб мінімальным спажывецкім бюджэце**

Даныя аб структуры і велічыні кошту мінімальнага спажывецкага бюджэту і спажывецкіх кошыкаў публікуюцца ў афіцыяльных выданнях, рэспубліканскім і мясцовым друку не пазней аднаго тыдня з дня іх зацвярджэння.

**Артыкул 7. Фонды сацыяльных праграм**

Фонды сацыяльных праграм ствараюцца ў мэтах рэалізацыі рэспубліканскіх і мясцовых сацыяльных праграм дапамогі насельніцтву за кошт бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў.

**Артыкул 8. Пытанні, якія знаходзяцца ў распараджэнні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае права прымаць рашэнні па пытаннях фарміравання і выкарыстання мінімальнага спажывецкага бюджэту, не ўрэгуляваных гэтым Законам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

9 студзеня 1992 г. г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб фарміраванні і выкарыстанні мінімальнага спажывецкага бюджэту»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб фарміраванні і выкарыстанні мінімальнага спажывецкага бюджэту» з моманту прыняцця.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін распрацаваць сістэму мер па рэалізацыі гэтага Закона.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

9 студзеня 1992 г. г. Мінск.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ ПАДАТКУ НА ДАБАЎЛЕНУЮ ВАРТАСЦЬ

**Артыкул 1. Плацельшчыкі падатку**

Плацельшчыкамі падатку з'яўляюцца юрыдычныя асобы (уключаючы замежных), якія ажыццяўляюць вытворчую і камерцыйную дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь незалежна ад падпарадкаванасці і форм уласнасці, на якой яны заснаваны*.

**Артыкул 2. Аб'ект падаткаабкладання**

Аб'ектам падаткаабкладання з'яўляецца вартасць, якую прадпрыемства (як у сферы вытворчасці, так і абароту) дабаўляе да вартасці сыравіны, матэрыялаў або тавараў пры вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, тавараў, выкананні работ і аказанні паслуг.

Падаткам на дабаўленую вартасць абкладаецца:

1) дабаўленая вартасць пры продажы ўсіх тавараў, выробленых, набытых або нарыхтаваных аднымі юрыдычнымі асобамі другім юрыдычным або фізічным асобам. Таварам лічыцца прадмет, выраб, маёмасць, прадукцыя;

2) дабаўленая вартасць пры продажы тавараў і паслуг унутры прадпрыемства для ўласнага спажывання на мэты, не звязаныя з вытворчай дзейнасцю, а таксама сваім работнікам;

3) дабаўленая вартасць па выкананні работ і паслуг;

4) дабаўленая вартасць пры пастаўцы прадукцыі без аплаты вартасці ў абмен на іншую прадукцыю (паслугі), а таксама бязвыплатная перадача тавараў і паслуг.

Не абкладаюцца падаткам на дабаўленую вартасць абароты па рэалізацыі тавараў (работ, паслуг), па якіх выплачваюцца ў бюджэт акцызы.

**Артыкул 3. Абкладаемы абарот**

Дабаўленая вартасць, якая абкладаецца падаткам, вылічваецца зыходзячы з сумы, атрыманай за тавары, выкананыя работы і аказаныя паслугі за вылікам матэрыяльных затрат на вытворчасць гэтай прадукцыі (работ, паслуг).

Амартызацыя асноўных фондаў у склад матэрыяльных затрат не ўключаецца.

Пры абмене тавараў або абменападобным абароце, калі замест аплаты за тавар, выкананую работу або аказаную паслугу мае месца пастаўка тавараў, выкананне работ або аказанне паслуг, абкладаемы абарот вылічваецца зыходзячы з цэн (тарыфаў) кожнага тавару, работы, паслугі, якія прымяняюцца прадпрыемствамі на момант заключэння здзелкі.

У аналагічным парадку вызначаецца дабаўленая вартасць пры выкарыстанні прадпрыемствамі тавараў для ўласных патрэб на мэты, не звязаныя з вытворчай дзейнасцю.

Пры выкананні работ (аказанні паслуг), для ўласных патрэб на мэты, не звязаныя з вытворчай дзейнасцю, абкладаемым абаротам з'яўляецца сума расходаў падаткаплацельшчыка, звязаных з выкананнем работ (аказаннем паслуг), за вылікам матэрыяльных затрат.

Вартасць зваротнай тары не ўключаецца ў падаткаабкладаемую суму, за выключэннем першаснай рэалізацыі прадпрыемствамі-вырабшчыкамі тары, па якой падатак выплачваецца ў агульным парадку.

Сума падатку на дабаўленую вартасць уключаецца ў адпускную цану тавараў (работ, паслуг).

Устаноўленыя размеры гандлёвых і аптова-збытавых скідак, гандлёвых надбавак, нацэнак (накідак) прымяняюцца да цэн з улікам падатку на дабаўленую вартасць.

У будаўнічых, будаўніча-мантажных і рамонтных арганізацый абкладаемым абаротам з'яўляецца вартасць будаўніча-мантажных і рамонтных работ за вылікам матэрыяльных затрат.

**Артыкул 4. Стаўка падатку**

Стаўка падатку на дабаўленую вартасць устанаўліваецца ў размеры 28 працэнтаў.

**Артыкул 5. Ільготы па падатку**

Ад падатку на дабаўленую вартасць вызваляюцца:

1) паслугі гарадскога пасажырскага транспарту, а таксама паслугі па перавозцы пасажыраў у прыгарадных зносінах рачным, чыгуначным і аўтамабільным транспартам;

2) абароты, звязаныя з раздзяржаўленнем і прыватызацыяй дзяржаўнай уласнасці;

3) работы, якія фінансуюцца за кошт бюджэту Рэспублікі Беларусь;

4) работы па будаўніцтву і рамонту аб'ектаў сацыяльна-культурнага і вытворчага прызначэння, якія выконваюцца гаспадарчым спосабам;

5) паслугі, што аказваюцца насельніцтву: жыллёва-камунальныя і эксплуатацыйныя (уключаючы кватэрную плату);

6) выдача і перадача пазык;

7) аперацыі (уключаючы здзелкі), што датычацца грашовых укладаў, бягучых рахункаў, плацяжоў, пералічэнняў, чэкаў і іншых каштоўных папер;

8) аперацыі (уключаючы перадачу), што датычацца валюты, грошай і банкнотаў, якія з'яўляюцца законнымі сродкамі плацяжу, за выключэннем калекцыйных манет. Калекцыйнымі лічацца манеты з золата, серабра і іншага металу, якія не выкарыстоўваюцца ў якасці законнага сродку плацяжу і прадстаўляюць інтарэс для нумізматыкі;

9) паслугі сувязі, якія аказваюцца насельніцтву;

10) аперацыі з каштоўнымі паперамі (акцыі, пай, абліганцыі і іншыя), за выключэннем аперацый па захоўванню і выпуску каштоўных папер, па якіх падатак спаганяецца;

11) продаж па намінальнай цане паштовых марак, марак дзяржпошліны;

12) паслугі, за аказанне якіх спаганяецца дзяржаўная пошліна;

13) абароты ігравых аўтаматаў казіно, выйгрышы па стаўках на іпадромах, ігральна-прызавых атракцыёнаў**;

14) аперацыі, звязаныя з продажам латарэйных білетаў і выплатай па іх узнагароджанняў;

15) паслугі, якія аказваюцца платнымі паліклінікамі, урачамі, ветэрынарнымі ўрачамі;

16) паслугі па ўтрыманню дзяцей у дашкольных установах, па догляду за хворымі і састарэлымі;

17) платныя паслугі ў сферы народнай адукацыі, звязаныя з навучальна-выхаваўчым працэсам;

18) тэатральна-відовішчныя, спартыўныя, культурна-асветныя, уключаючы відэапаказ;

19) паслугі адвакатаў і юрыдычных кансультацый па аказанню юрыдычнай дапамогі насельніцтву;

20) рытуальныя паслугі пахавальных бюро, могілак і крэматорыяў;

21) прадпрыемствы, што належаць на праве ўласнасці таварыствам інвалідаў, па рэалізацыі прадукцыі, якая імі вырабляецца;

22) рамонтна-рэстаўрацыйныя работы па аднаўленню помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.

Пералік тавараў, работ і паслуг, што вызваляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць, з'яўляецца адзіным для ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Парадак вылічэння падатку і тэрміны выплаты**

1. Падатак на дабаўленую вартасць вылічваецца непасрэдна плацельшчыкамі і залічваецца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь.

2. Плацельшчыкі ва ўстаноўленым парадку прадстаўляюць падатковым органам разлікі аб сумах падатку на дабаўленую вартасць, якія падлягаюць выплаце ў бюджэт.

3. Падатак на дабаўленую вартасць выплачваецца ў бюджэт у наступным парадку:

а) пры сярэднямесячнай суме падатку звыш 10.000 тыс. руб. — штодзённа, на трэці рабочы дзень пасля ажыццяўлення абароту;

б) пры сярэднямесячнай суме падатку ад 2.000 тыс. руб. да 10.000 тыс. руб. — штодэкадна зыходзячы з фактычнага абароту за кожную мінулую дэкаду;

в) пры сярэднямесячнай суме падатку ад 500 тыс. руб. да 2.000 тыс. руб.—два разы ў месяц зыходзячы з фактычнага абароту;

г) пры сярэднямесячнай суме падатку да 500 тыс. руб.—штомесячна зыходзячы з фактычнага абароту за папярэдні месяц.

4. Прадпрыемствы, якія вырабляюць тавары, а таксама выконваюць работы і аказваюць паслугі, што не абкладаюцца падаткам на дабаўленую вартасць, разлікі з пакупнікамі робяць без гэтага падатку. Сумы падатку на дабаўленую вартасць, выплачаныя пастаўшчыкам, адносяцца на выдаткі вытворчасці і абарачэння.

Тэрміны выплаты падатку ўстанаўліваюцца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

* У далейшым — прадпрыемствы.

** Абкладаюцца падаткам на даход па стаўцы 60 працэнтаў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 снежня 1991 г. г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» з 1 студзеня 1992 года.

2. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» прымяняецца юрыдычнымі асобамі пры разліках з бюджэтам за тавары, аказаныя паслугі і выкананыя работы пачынаючы з 1 студзеня 1992 года.

3. Устанавіць, што абароты па падпісцы на перыядычныя выданні, праведзенай да 1 студзеня 1992 года, падаткам на дабаўленую вартасць не абкладаюцца.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін зацвердзіць інструкцыю аб парадку і тэрмінах унясення падатку ў адпаведнасці з гэтым Законам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 снежня 1991 г. г. Мінск.

